© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 24 (2144) Год XLII Беласток 15 чэрвеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Пераможцы разам з дырыжорам.* Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

# Фестываль у Гайнаўцы

Аляксандр Вярбіцкі

У нядзелю 1 чэрвеня закончыўся XVI Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Прынялі ў ім удзел амаль усе запрошаныя калектывы; не даехаў толькі, як і два гады таму, хор з Усходняй Афрыкі.

Гран-пры Фестывалю атрымаў Хор студэнтаў факультэта па дырыжыраванні Беларускай акадэміі музыкі з Менска пад кіраўніцтвам прафесара Віктара Роўды.

У катэгорыі прафесіянальных свецкіх хораў два першыя месцы раздзялілі Камерны хор імя Сяргея Рахманінава з Тамбава (Расея) і Хор царкоўнай музыкі з Рыгі (Латвія).

У катэгорыі аматарскіх свецкіх хораў пераможцамі сталі Настаўніцкі хор „Bel Canto" з Ольштына і Хор даўняй музыкі „Consonanza" з Вроцлава.

У катэгорыі асобых прыхадскіх хораў найлепшым аказаўся хор Праваслаўнай школы псаломшчыкаў з Гайнаўкі. Вылучэнні атрымалі хор Хельсінскай епархіі „Tonos" (Фінляндыя) і хор Менскай духоўнай семінарыі пры Жыровіцкім манастыры (Беларусь).

У катэгорыі гарадскіх прыхадскіх хораў два першыя месцы раздзялілі беластоцкія хоры: дзіцячы Свята-Мікалаевага сабора і хор Свята-Духавага прыхода.

У катэгорыі вясковых прыхадскіх хораў перамог хор прыхода Нараджэння ПДМ у Ляхавічах (Беларусь).

Найлепшымі дырыжорамі журы назвала Галіну Стулаву з Масквы, Яна Палаваянюка з Ольштына, Багдана Антківа з Кіева і Георгіаса Канстанціну з Афінаў.

Сваіх любімцаў выбірала таксама кожнага дня публіка, якой найбольш падабаліся хоры з Ляхавіч, Кандапогі (Карэлія), Жыровіч (Беларусь), Луцка (Украіна), Блотаў (Польшча) і Афінаў.

Апрача конкурсных выступленняў у гайнайскім Свята-Троіцкім саборы, удзельнікі Фестывалю далі шмат канцэртаў у праваслаўных прыходах Беласточчыны: Бельску-Падляшскім, Райску, Ласінцы, Сямятычах, Старым Корніне, Дубічах-Царкоўных, Саколцы, Кляшчэлях, Чаромсе, Гарадку, Міхалове, Нараўцы і Семяноўцы.

Лепшыя замежныя хоры паказалі сваё майстэрства слухачам Кракава і Варшавы. Таксама ў Беластоку, традыцыйна ўжо ў Свята-Духавай царкве, на працягу трох дзён выступіла большасць калектываў у г.зв. Фестывалі-біс. Быў я там у чацвер, 29 чэрвеня. Нягледзячы на тое, што быў гэта выхадны дзень (Boże Ciało), публікі прыйшло нямнога, беручы пад увагу і велічыню горада, і велічыню храма; менш чым у мінулым годзе. Нейкай паталяй у гэтакай сітуацыі можа быць толькі тое, што большасці яе неastaўляйлі пенсіянеры.

Завяршылі Фестываль два нядзельныя гала-канцэрты: адзін у Гайнаўцы, а другі ў Беластоку. На апошнім з іх, у Філармоніі, прысутнічаў старшыня Рады Міністраў Рэчы Паспалітай Уладзімеж Цімашэвіч.

* * *

У аўторак 27 мая хоры з Шумперка (Чэхія) і Ляхавіч паказалі сваё ўмельства прыхаджанам Ласінкі. Публікі было тут нямнога больш за харыстаў, недзе каля сотні чалавек; паводле аціэнак ласінчан — у тры разы менш, чым два гады раней. І тут, як і ў Беластоку, незапоўненая царква наводзіла асаблівы сум, нягледзячы на тое, што прыйшло шмат дзяцей. Прысутныя з увагай выслухалі спеваў, а іх выканаўцам ласінскі настаяцель а. Георгій Кос падзякаваў цёплым словам і ўручыў кветкі. Прыхаджанам спевы гасцей падабаліся, а гасцям з Ляхавіч вельмі падабалася ласінская царква. На маю інфармацыю, што тут праводзіцца абнаўленне, адна з ляхавіцкіх харыстак спытала:

— То гэтая царква была закрыта?

Нас тут у Польшчы можа здзіўляць такое пытанне, аднак не іх. Царква ў Ляхавічах, што на Палессі, між Драгічынам і Пінскам, выстаяла савецкі час, аднак цэрквы ў наваколлі былі закрыты. Усе іконы з навакольных закрытых храмаў былі звезены ў Ляхаві-

[працяг ☞ 8]

# Свята душы

*XVI Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі — чатыры дзесяткі хораў, некалькі тысяч слухачоў у самім саборы Святой Тройцы — на працягу тыдня быў галоўнай падзеяй не толькі ў Гайнаўцы. Перажывала яго палова Беласточчыны. Людзі з другога канца Польшчы спецыяльна бралі водпускі, каб на ім пабываць. Найлепшыя польскія і замежныя хоры ўключаюць у сваю праграму царкоўныя творы, каб выступіць у Гайнаўцы. Некаторыя ствараюцца і цяжка працуюць спецыяльна дзеля ўдзелу ў фестывалі.*

*У ходзе мерапрыемства даводзілася пачуць пра яго самыя розныя галасы. Найбольш незадаволеных было ў чацвер, калі планавалася выступленне хору з Кеніі (адзіны хор, які не даехаў). Хто ў той дзень прыйшоў гадзіну да канцэрта, не мог ужо і марыць пра тое, каб увайсці ўсярэдзіну.*

*Найчасцей паяўлялася заўвага, што мабыць фестываль завялікі. Як на Гайнаўку, так і на перцэпцыйныя магчымасці людзей. Маўляў, пасля тыдня шматгадзінных канцэртаў уражанні сціраюцца, блытаюцца выканаўцы і творы.*

*Некаторыя хоры, асабліва тыя, што прыехалі здалёк, нагружаныя абавязкам выступаць у іншых мясцовасцях, выказвалі шкадаванне, што не мелі магчымасці прыглядзецца самому фестывалю, паслухаць іншых, павучыцца.*

*Наракалі прафесійныя музыкі, кіраўнікі хораў з Кашаліна, Гданьска, Сопата, якія прыехалі за свой кошт спецыяльна на семінар для дырыжораў. Прывабілі іх сюды слаўныя прозвішчы выкладчыкаў (vide: Рамуальд Твардоўскі) і магчымасць практычнага знаёмства з царкоўнай музыкай. Нічога, аднак, у час семінара яны не даведаліся, бо занятк праходзілі ў адной групе, замест двух планаваных. І слухалі яны разам з прыхадскімі рэгентамі самыя элементарныя рэчы ў музыцы, напрыклад, як махаць рукамі перад хорам.*

*Аднак, калі хтосьці меў якое-небудзь дачыненне да арганізацыі масавага мерапрыемства (хай сабе ў непараўнальна меншым маштабе), ведае, што ніколі ўсё запланаванае не выйдзе. На гайнаўскім фестывалі з сарака прадбачаных удзельнікаў, выступіла трыццаць дзевяць. Мала таго, усё ішло паводле элегантна выдадзенай асобным буклетам праграмы, з дакладнасцю да твора. У час канцэрта лаўрэатаў быў гатовы кампакт-дыск з іхнімі выступленнямі. Такога ў прыродзе амаль не бывае!*

*Член журы, швейцарац Пэтэр Вітовэц здзівіўся: „Фестываль завялікі? Чаму тады кожны дзень у царкве збіралася поўна народу?"*

*Можна на гэта адказаць словамі Марыі Нічыпарук з Грабаўца, якая пасля канцэрта ў Дубічах-Царкоўных хору з Кандапогі сказала: „Гэта свята маёй душы".*

*Мікалай Бушко і яго памочнікі падарылі свята тысячам душ.*

*Мікола Ваўранюк*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Мы прачыталі

*Mamy w Sejmie projekt nowej ustawy o finansowaniu partii politycznych. Oczywiście jest to projekt po to, aby z kieszeni podatnika wydrzeć jeszcze trochę grosza. Politykom, którym nie wystarczają już ciągłe podwyżki diet, trzeba jeszcze pieniędzy na partie. Projekt przewiduje, że partia, która w wyborach otrzyma 2,5 proc. poparcia, będzie utrzymywana z budżetu państwa. Obywatel nawet jeżeli będzie uważać, że jakaś partia ma program prowadzący do ruiny gospodarczej będzie musiał ją finansować ze swoich podatków. Będzie żywił lidera tej partii wraz z rodziną po to, aby on wypasiony na społecznym wikcie wygłaszał publicznie brednie. Da pieniądze na sekretarki, które te brednie spiszą i kolporterów, aby je upowszechnili.*

*Gazeta Współczesna, nr 103*

* * *

*Kardynał Józef Glemp, Prymas Polski powiedział niedawno: „Kościół w Polsce cechuje dziś wielki dynamizm. W każdej diecezji są katolickie media, mamy bardzo liczne czasopisma, rozwijają się szkoły katolickie". W „Najwyższym Czasie" słowa Prymasa skomentował Janusz Korwin-Mikke: „Gloria, Gloria, Alleluja! Gdyby jeszcze równie dynamicznie rozwijały się inne Kościoły, to może w wyniku wolnej konkurencji Polska stałaby się krajem chrześcijańskim".*

*Polityka, nr 21*

* * *

*Marian Krzaklewski podobnie jak Aleksander Łukaszenko nie lubi zachodnich intelektualistów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 121*

* * *

*Największe poparcie Konstytucja zdobyła wśród mieszkańców gmin Czyże (96 proc. „za") oraz Dubicz Cerkiewnych (95 proc.), najmniejsze natomiast wśród mieszkańców gminy Brańsk (17,9 proc. „za" i 82,1 proc. „przeciw").*

*Kurier Poranny, nr 122*

Гэта толькі абазначае, што ў гміне Браньск жыве 18 працэнтаў беларусаў, а ў гміне Чыжы — 4 працэнты палякаў.

* * *

*Саўгас „Маладая гвардыя", што ў вёсцы Шылавічы, гнаў спірт у Амерыку цыстэрнамі. Амерыканская фірма „Трэйд Кансалтынг Сэрвіс" заключыла з саўгасам дамову на выраб спірту, з транспарціроўкай яго ў Злучаныя Штаты. Мусіць там палічылі, што шылавіцкі спірытус прыйдзецца даспадобы каўбоям прэрыі Malboro. Аднак амерыканцам спірт так і не давялося пакаштаваць таму, што фірма „Трэйд Кансалтынг Сэрвіс" наогул не існуе, а калгасныя вырабы ішлі на прадукцыю сурагатнай гарэлкі, якую выпівалі грамадзяне Беларусі, не заплаціўшы падатку дзяржаве.*

*Газета Слонімская, н-р 2*

З гэтай гісторыі нам найбольш спадабалася назва саўгаса.

* * *

*Pani Ewa Spychalska jest ambasadorem Nadzwyczajnym i Pełnomocnym Rzeczypospolitej Polskiej w Republice Białoruś tylko od listopada ubiegłego roku. Wywiad dla „Kultury" dlatego jest jednym z niewielu w prasie białoruskiej.*

*— Zdaniem pani, czy naprawdę istnieje ciekawość do kultury białoruskiej w Polsce?*

*— Każda kultura zawsze była w centrum zainteresowania Polaków, jeżeli chodzi o Białoruś — szczególnie, i mamy wiele punktów zbieżnych bliskich każdemu Białorusinowi i Polakowi. Mickiewicz, Kościuszko, Moniuszko, Ogiński cenione są zarówno w Polsce, jak i na Białorusi. Twórczość oparta jest nie tylko na tym jednym miejscu, ale na wpływach zarówno tej kultury polskiej jak i bardziej wschodniej kultury białoruskiej. Co z tego, że kultura białoruska znana jest w województwie Białostockim? Szerzej — nie, a to powinno być, przecież to zbliża narody.*

*Культура, н-р 19*

Пасол Рэчы Паспалітай у Беларусі Эва Спыхальска адказала на пытанні журналіста Ірага Клокава, а цэласць гэтага інтэрв'ю зробленага „po polskiemu" была змешчана ў спецыяльным выпуску „Культуры" з нагоды Дзён беларускай культуры ў Польшчы, якія праходзілі ў днях 19-21 мая.

* * *

*W państwie totalitarnym — jakim był Związek Radziecki — funkcje przestępczości zorganizowanej czy też mafii często przejmuje samo państwo. Najbliższy pojęciu mafii był w tamtych czasach aparat partyjny i państwowy, mimo, że taka analogia mało komu przychodziła do głowy. Oficjalnie uważano, że w Związku Radzieckim nie ma przestępczości zorganizowanej, zaś oficerowie milicji, którzy myśleli inaczej, ryzykowali nie tylko karierą, lecz również wolnością. Pod koniec lat 70. i na początku 80. zaczął się rozkwit szarej strefy kontrolowanej przez „fabrykantów". Fabrykantami nazywano wówczas ludzi, którzy w warunkach powszechnego deficytu uruchamiali produkcję (w podziemiu lub półlegalnie) towarów powszechnego użytku, odzieży, obuwia, napojów alkoholowych. Może to wydawać się dziwne, ale w Związku Radzieckim, gdzie rzekomo wszystko było kontrolowane przez KGB, istniały całe fabryki i zakłady nie wykazywane w żadnej statystyce czy dokumentach. Właśnie wówczas fabrykanci nawiązywali ścisłą współpracę ze światem przestępczym oraz systemem partyjno-administracyjnym. Przestępcy zapewniali fizyczną ochronę fabrykantom, zaś funkcjonariusze aparatu partyjnego bronili biznesmenów przed organami prawa. Ani złodzieje, ani funkcjonariusze nie spełniali swoich funkcji bezpłatnie.*

*Polityka, nr 20*

# З мінулага тыдня

**Ісус Хрыстос учора, сёння і навекі** — пад такім лозунгам праходзіла адзінаццацідзённая пілігрымка папы **Яна Паўла II** у Польшчу. У першы дзень візіту, падчас экуменічнай малітвы ў Вроцлаве папа сказаў, што „з дарогі экуменізму няма звароту". Сваё выступленне прысвяціў ён адзінству хрысціян і адзначыў, што талерантнасці паміж паасобнымі хрысціянскімі цэрквамі і супольнасцямі недастаткова і неабходнае іх прымірэнне. У малітве прысутнічала 6 тысяч чалавек, у ліку якіх былі рэпрэзентанты брацкіх хрысціянскіх цэркваў. Польскую аўтакефальную праваслаўную царкву прадстаўляў епіскап Вроцлаўскі і Шчэцінскі **Іеремія**. Спяваў таксама хор праваслаўнага прыхода св.св. Кірылы і Мяфодзія з Вроцлава.

**Сустрэча** папы **Яна Паўла II** з патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі **Алексіем II** амаль пэўная, — такую перакананасць выказаў у Вроцлаве кардынал **Ахіле Сільвестрыні**, прэфект ватыканскай кангрэгацыі па справах усходніх цэркваў. Мела б яна адбыцца сёлета ў III дэкадзе чэрвеня ў ваколіцах Вены. Маскоўская патрыярхія не прыняла яшчэ канчатковага рашэння наконт спаткання. На думку намесніка старшыні Аддзела замежных сувязей Расейскай праваслаўнай царквы а. **Віктара Петлючэнкі**, такое спатканне можа пасадзейнічаць прыблізненню абодвух цэркваў.

**XVIII Агульнапольскае паломніцтва праваслаўнай моладзі** на Святую Гару Грабарку згуртавала амаль дзве тысячы чалавек — не толькі айчынных пілігрымаў, але і юных гасцей з Беларусі, Фінляндыі, Расеі, Румыніі, Славакіі, Грэцыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны і ЗША. Маладыя паломнікі дыскутавалі ў тэматычных групах аб гісторыі Царквы і царкоўных маладзёжных рухаў, а таксама аб канкардаце і адносінах да яго Праваслаўнай царквы ды аб стаўленні праваслаўя да сучаснай медыцыны.

**Скарбы манастыроў Афона** будуць упершыню ад тысячы гадоў паказаны публіцы на выстаўцы ў Салоніках, якія сёлета з'яўляюцца культурнай сталіцай свету. З 21 чэрвеня да снежня г.г. у Музеі візантыйскай цывілізацыі будзе можна паглядзець больш за 600 святыняў, якія захоўваюцца ў манастырах Святой Гары Афон.

**V Міжнародны фестываль гарадоўпабрацімаў** адбудзецца ў Гдыні. У ім прымала ўдзел прадстаўнічая дэлегацыя з Баранавічаў, у склад якой увайшлі самадзейныя артысты і юныя спартсмены. Яны спаборнічалі з прадстаўнікамі гарадоўпабрацімаў Літвы, Расеі, Швецыі, Фінляндыі і іншых краін, прычым не без поспеху. Пасланцы Баранавічаў заваявалі агульнае каманднае трэцяе месца. У ходзе фестывалю адбыліся перамовы аб далейшым развіцці дзелавых, культурных і спартыўных кантактаў паміж гарадамі-пабрацімамі, удакладнена праграма далейшага супрацоўніцтва.

**III Літаратурны чэрвень** адбыўся ў Ломжы. Удзельнічалі ў ім творцы з усяе Польшчы, у ліку якіх былі **Кшыштоф Зануссі, Станіслаў Стабро, Анджэй Струміла, Сакрат Яновіч, Яанна Сядлецка**. Трохдзённы цыкл мерпарыемстваў прысвечаны быў літаратуры як творчай інспірацыі.

**Міжнародны эканамічны семінар**, прысвечаны экалагічным аспектам дзейнасці ў прыгранічнай зоне Еўрарэгіёна Нёман адбыўся ў Беластоку. Навукоўцы і студэнты эканоміі з Беластока, Гродна і Менска абмяркоўвалі пытанне захавання для будучых пакаленняў незвычайных прыродных якасцей пагранічча Польшчы, Літвы і Беларусі.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Першыя дні вайны 1941 г. ва ўспамінах жыхароў Орлі — рэпартаж Міколы Мінцэвіча.
- Пра кантрабандыстаў і пасажыраў цягніка Чаромха—Брэст — піша Уладзімір Сідарук.

# Весткі з Беларусі

**Саюз ратыфікаваны**

Ніжняя палата Нацыянальнага Сходу Беларусі аднагалосна ратыфікавала падпісаны ў Маскве дагавор і статут Саюза Расеі і Беларусі. Гістарычнай назваў гэтую падзею старшыня Палаты Прадстаўнікоў Анатоль Малафееў.

**Ініцыятыва рускіх абшчын**

Кангрэс рускіх абшчын вітае падпісанне гістарычных дакументаў паміж Расейскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь, якое з'яўляецца важным крокам на шляху яднання брацкіх славянскіх народаў, — гаворыцца ў заяве выканаўчага камітэта арганізацыі. Кангрэс рускіх абшчын выступіў з ініцыятывай стварэння руска-беларускага брацтва, якое аб'яднае намаганні грамадскасці дзвюх краін па ўмацаванні дружбы, паглыбленні ўзаемаразумення і культурным узбагачэнні, што будзе садзейнічаць стварэнню адзінага, непарушнага духоўнага саюза брацкіх славянскіх народаў.

**Эканамічны сімпозіум**

У Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі завяршыўся трохдзённы міжнародны сімпозіум „Эканамічная думка — гісторыя і сучаснасць". Ён быў прысвечаны 155-годдзю пачатку падрыхтоўкі эканамістаў у гэтай навучальнай установе. Удзел у форуме прынялі айчынныя вучоныя і госці з Германіі, Італіі, Польшчы і Расеі.

**Адпачынак у „Ластаўцы"**

Амаль 500 хлопчыкаў і дзяўчынак прыме гэтым летам лагер адпачынку „Ластаўка" работнікаў аграпрамысловага комплексу Астравецкага раёна, прычым адпачываць і папраўляць сваё здароўе будуць тут не толькі юныя жыхары Астравеччыны, але і школьнікі з забруджаных радыяцый раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Асобая ўвага будзе ўдзелена харчаванню і вітамінізацыі дзяцей. Раённы камітэт прафсаюза заключыў ужо дагаворы на пастаўку харчавання з фірмамі Ашмянскага, Смаргонскага і Астравецкага раёнаў.

**Помнік першаму герою**

У вёсцы Арабаўшчына Баранавіцкага раёна адкрыты помнік першаму герою Беларусі, лётчыку падпалкоўніку Уладзіміру Карвату. 23 мая 1996 г. падчас вучэбна-трэніровачнага палёту самалёт Карвата загарэўся. На шляху палаючай машыны знаходзіліся населеныя пункты. Лётчык, нягледзячы на небяспеку выбуху, прыняў мужнае рашэнне накіраваць машыну ўбок і прадухіліць яе ад падзення ў густа населеным раёне. Цаной свайго жыцця ён выратаваў многія жыцці жыхароў вёсак Арабаўшчына і Вялікагацішча. Указам прэзідэнта РБ Уладзімір Карват пасмяротна ўдастоены звання герой Беларусі.

**Магілёўская гадавіна**

Сваё 730-годдзе адзначыў Магілёў. На ўрачыстасці сюды прыбылі дэлегацыі з гарадоў-пабрацімаў: балгарскага Габрава, нямецкага Айзенаха, польскага Влацлаўка, французскага Вілербана, літоўскай Клайпеды, малдаўскага Цірасполя, а таксама з расейскіх гарадоў Бранска, Курска, Петразаводска, Смаленска і Тулы. У рамках юбілейных святкаванняў адбыліся кірмашы і канцэрты ў парках, скверах і на адкрытых пляцоўках горада.

**Беспрацоўныя ў полі**

На працоўную вахту ў Талачынскі раён Віцебскай вобласці — на нарыхтоўку кармоў і ўборку збожжавых згадзіліся выехаць больш як 150 жыхароў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Людзі азнаёмлены з умовамі жыцця і аплаты. У гэты раёне вельмі складаная сітуацыя на рынку працы.

**Трагічны пажар**

У вёсцы Осава Бабруйскага раёна загінулі адразу трое дзяцей ва ўзросце 6 гадоў, 1,5 года і 8 месяцаў. Аб бацьках загінуўшых суседзі адзываюцца дрэнна, бо яны злоўжываюць спіртным, малых не даглядалі. Вось і ў трагічны дзень пакінулі дзяцей адных. У той час старэйшы хлопчык спрабаваў хутчэй за ўсё нешта зрабіць з'есці для галодных малодшых сястрычак на электрапліце, якая стала прычынай пажару. Шасцігадовы малыш спрабаваў ратаваць немаўлят — маленькую сястрычку ён данёс да акна, вярнуўся за другой, але ўжо вынесці не змог. Усе трое задыхнуліся ў дыме. На жаль такія выпадкі, калі п'янства і галеча губяць дзяцей, у наш час — не рэдкасць.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# На гэтым можна зарабіць

У час рынычнай эканомікі і вялікага беспрацоўя многія з нас намагаюцца знайсці нейкі занятак, каб раздабыць грошы. У некаторых мясцінах людзі пачалі збіраць зёлкі.

Наведаў я нядаўна пункт скупкі ў Кляшчэлях, які знаходзіцца ў прыватнай забудове спадара Жарначука. Скупшчыкам аказаўся малады, ветлівы мужчына, які ў кожны панядзелак з'яўляецца тут, каб прыняць тавар ад пастаўшчыкоў.

Вось, што я пачуў ад свайго суразмоўцы.

— Цяжка зараз прыходзіцца чалавеку на вёсцы. Бяда аж пішчыць! Таму і людзі хапаюцца кожнага занятку, які дае магчымасць зарабіць нейкі грош. Паколькі даўней збіраннем зёлак займалася невялічкая частка сялян, дык за апошнія чатыры гады зацікаўленне гэтай справай намнога больш павялічылася. Ёсць у мяне пастаянныя пастаўшчыкі, прыбываюць і новыя. Найбольш сыравіны пастаўляюць жыхары Дашоў і сяляне прыгранічных вёсак каля Чаромхі.

— Які прыбытак можна мець з гэтай справы? — пытаюся я свайго суразмоўцы.

— Некаторыя атрымліваюць невялікія сумы, трыццаць-пяцьдзесят злотых за адзін раз. Іншыя намнога больш. Можна паказаць тут прыклад, калі сям'я аднаго пастаўшчыка зарабіла каля васьмі тысяч злотых за адзін сезон. Праўда, збіраннем займаліся пастаянна чатыры асобы. Аднак і прыбытак не такі ўжо і малы. А так, дарэчы, калі няма працы, дык і на зёлках можна зарабіць, хоць гэта вельмі карпатлівы занятак. Для пачаткоўцаў рэкамендую пачаць збіраць лісце крапівы. Плацім па 2 зл. за 1 кг. гэтай сыравіны. Яна добра сушыцца. Трэба толькі глядзець, каб дождж ці раса не прыхапілі. Крапіва тады пачарнее і такую мы адкідаем.

Можна таксама заняцца збіраннем лісткоў бярозы, чорнай парэчкі (пасля ўборкі ягады), трускалак, суніцы. Некаторыя пастаўляюць кару крушыны. Летам найлепш можна зарабіць на святаянніку. Многа яго на нашых палях. Шчыра кажучы, трэба крыху галавой варухнуць, патурбавацца, дык і грошы мець будзем.

„Без працы няма чаго хлеба шукаць", — кажа прымаўка.

Варта аб гэтым памятаць.

**Уладзімір Сідарук**

# Шукаюць наіўных

У наваколлі Чаромхі пачала апошнім часам круціцца нейкая дамачка. Прыгожая вопратка і шыкарная машына маюць сведчыць аб яе заможнасці. Яна і гаворыць, што шукае кандыдатаў для бізнесу.

У час размовы рэкамендуе яна працу з вялікай платай. Нічога не трэба рабіць, — кажа. Хопіць прыехаць у Беласток да іхняй фірмы шыкарна апранутым, пасядзець дзве гадзінкі на навучанні або пры тэлефоне, час ад часу паехаць на вёскі з людзьмі пагаварыць. І за гэта, мабыць, на працягу некалькіх месяцаў можна стаць багатым.

Тых, што згаджаюцца на „навуку" ў іхняй „фірме", панечка запрашае на першую сустрэчу ў Беласток. Абумоўлівае аднак прытым, каб аб справе той пакуль што нікому не гаварыць, бо замнога было б ахвотных стаць багатымі.

Мне прыйшлося даведацца нешта больш аб дзейнасці фірмы гэтай дамачкі-прыгажуні. Аказалася, што ўсё гэта звычайнае ашуканства.

Калі ўжо кандыдат на бізнесмена заедзе ў Беласток у будынак „фірмы", патрабуецца ад яго ўплаціць 3 700 злотых (трыццаць сем мільёнаў злотых падаўнейшаму). На гэтую суму не даюць ніякай квітанцыі. Абавязкам такога новаспечанага члена „фірмы" ёсць знайсці ў „тэрэне" як найбольшую колькасць кандыдатаў. І за гэта атрымае ён сваю долю — вялікія грошы.

Цікавай справай з'яўляецца тое, што ў Чаромхаўскай гміне знайшліся такія, што паверылі ў казкі панечкі і ніяк не могуць „вырваць" сваіх уплачаных грошай.

Таму хачу перасцерагчы кожнага, хто мог бы спакусіцца на лёгкі „заробак": не верце згаданай дамачцы-прыгажуні і ёй падобным. Гэта звычайныя махляры, якія шукаюць наіўных, каб выманіць толькі грошы і самім жыць прыпяваючы.

Найлепшым бізнесам для кожнага чалавека з'яўляецца самаахвярная, карпатлівая праца, якая прынясе задавальненне і прыбытак у хату.

**Кастусь Млынарскі**

# Турыстычны пульс Белавежы

Турыстычны сезон у Белавежы пачынаецца ў пачатку мая. Не інакш было і сёлета. Зараз кожны дзень у мястэчку можна сустрэць шмат школьных экскурсій. Калі трапляюцца групы старэйшых асоб, гэта пераважна ўдзельнікі нейкіх канферэнцый, семінараў, нарадаў ці проста замежныя арнітолагі-аматары. Звычайна экскурсій дарослых асоб у гэту пару амаль не прыкмячаецца. У ліпені-жніўні дамінаваць будуць у сваю чаргу турысты індывідуальныя.

У гэтым годзе, да паловы мая Белавежу наведала звыш 11 тысяч асоб, у тым ліку звыш 700 замежнікаў амаль з 20-ці дзяржаў. Гэта больш-менш столькі, што ў мінулым годзе, хаця на агульны вынік сезона выдатна паўплываюць чэрвень і летнія месяцы. Такім турыстычным рухам, які наглядаецца зараз, задаволены ўсе ўласнікі мясцовых гасцініц, рэстаранаў, турыстычных бюро. Падзарабіць могуць і экскурсаводы, асабліва тыя, якія валодаюць замежнымі мовамі. Наогул тут, у Белавежы, знаёмства моў дае кожнаму шанц на неблагі прыбытак і жыццё на задавальняючым узроўні.

На жаль, турыст, які „заблудзіць" у белавежскія нетры не заўсёды выязджае адсюль цалкам задаволены. Зараз у продажы няма аніводнага турыстычнага даведніка. Дзве невялічкія брашуры, якія дзе-нідзе яшчэ прадаюцца, былі выдадзены ў пачатку 80-х гадоў. Яны па той прычыне больш дэзінфармуюць, чым высвятляюць праўду. А ў апошнія гады ў раёне Белавежскай пушчы многа чаго змянілася. Недастаткова і літаратуры на замежных мовах. Турыстычны даведнік, які падрыхтавала праф. Крыстына Фалінская і які меў паявіцца ўвосень мінулага года, дагэтуль не выйшаў. На шчасце, ёсць шанц, што ў продаж неўзабаве паступіць альбом аб пушчы, які падрыхтавала сужонства кінематаграфістаў Бажэна і Ян Валенцікі. Ён ужо рэкамендаваўся ў Варшаве і неўзабаве будзе даступны і ў Белавежы.



Добра, што ў продажы пастаянна знаходзяцца карты Белавежскай пушчы і ваколіц вадасховішча Семянуўка. Турыст павінен быць задаволены і выбарам паштовак. Белавежскі нацыянальны парк склаў заказ на чарговую партыю відэакасет з тэлесерыялам „Пульс першабытнай пушчы". Пра іх дапытваюцца шматлікія наведвальнікі Белавежы. Не шкодзіла б выдаць на касеце і навейшы фільм спадарства Валенцікаў „Апошняя пушча".

Вялікай стратай стала для Белавежы ліквідацыя Лясной галерэі Тамары Тарасевіч. Адкрыць яе нанава будзе ўжо цяжка, таму што будынак змяніў уласніка і той мае свой план яго выкарыстання. На шчасце адтэрмінаваны рамонт і мадэрнізацыя Прыродазнаўчага музея, інакш у Белавежы не асталося б ніводнай музейнай установы. Пастулаванае ад некалькіх гадоў стварэнне „Хаты лесніка" ўсё яшчэ астаецца толькі ідэяй.

З думкай аб турыстах, тры белавежскія надлясніцтвы вызначылі на сваіх тэрыторыях 7 адукацыйных сцежак, а для некаторых выдадзены нават даведнікі. Апошнім часам выйшаў і даведнік пра 22 пушчанскія запаведнікі прыроды. Шкада толькі, што няма яго ў продажы.

У Белавежскай гміне аднавілі ўсе існуючыя турыстычныя шляхі. Побач школьнай турыстычнай базы, ля будаванай гімнастычнай залы, у найбліжэйшы час добраўпарадкуюць палатачнае поле. Як абяцае войт Белавежскай гміны, у найбліжэйшы час добраўпарадкуюць таксама стаянку аўтамабіляў. На ёй паявяцца і сучасныя, пластмасавыя прыбіральні. Усё паказвае, што ў памяшканні бюро ПТТК узнікне турыстычны інфармацыйны цэнтр, які будзе працаваць кругласутачна.

**Пётр Байко**

*Фота з архіва*

# Залатыя рукі самавука

— Як вы навучыліся рабіць гэтыя бочачкі? — спытаў я **Аляксандра Сянкевіча**, 62-гадовага жыхара маленькай вёскі Граматнае, што на акраіне Лядскае пушчы.

— У Лешуках быў адзін такі *фацэт*, што бочкі рабіў, і мяне паслалі да яго на навуку. Праўчыўся я ў яго чатыры дні і кінуў, не вытрымаў — ледзь прывалакаўся дадому. З таго часу мінула было мо нейкія два гады, і я ўжо сам захацеў самастойна спрабаваць нешта зрабіць. Сам зрабіў сабе струг, варштата тады ў мяне не было, то я толькі дошку такую прыдумаў і на клінок драўніну мацаваў. Гэблікі і скобкі ад дзеда меў. Накалоў клепак. Але ж і той *фацэт*, у якога я вучыўся, напароўся. І давай рабіць са мною, але не дае мне станаўнічок стаўляць! А станаўнічок той ставіць, гэта найважнейшае ўмельства. Станаўнічок, гэта такі абручык, да якога трыма „сабачкамі", такімі жалезнымі *ухвытамі*, мацуецца тры клепкі і стаўляецца, як трыножак, і пасля ўжо да гэтай канструкцыі дапасоўваюцца апошнія. Але раз той майстар раней пайшоў, то я тады думаю: вядзерка зраблю, яно невялічкае, найлягчэй будзе, а як не выйдзе, то спалю для непазнакі. І за вечар зрабіў! Прыходзіць майстар на другі дзень, глядзіць: вядро абкаванае, абрэзанае — так як трэба.

Ну і так ужо пайшло. Пазней зрабіў я сабе варштат, бо без варштата цяжка, асабліва нявыгадна дно абрэзваць. Ну і трэба мець спрыт і ўмеласць у руках. Для прыкладу, клёпак не стружацца стругам, толькі струг мацуецца ў варштаце і па ім клёпкай, інакш крыва будзе. А і клёпкі калоць толькі трэба, бо з рэзаных дошак клёпак не будзе, яны патрэскаюцца. І спецыяльнае кавадла з дзіркамі маю, абручы на ім рабіць. Нараблю калісь фуру, і па вёсках паехаў прадаваць. Калісь то і лес быў — не тое, што сёння! Клёпкі вырабляў з рознага матэрыялу: з сасны, елкі. Асіна і вольха былі добрыя на бочкі для настойкі або віна; калісь аднаму з Міхалова то нават бражнік з двума днамі быў зрабіў, а цяпер дырэктар з Ляўкова заказаў вось бочку на віно, вялікую, на метр дваццаць. Рабіў і дзежкі, і бочкі на агуркі, і цэбры на мяса. Былі меркі, напрыклад на два пуды жыта.

— А колькі Вы берацe за бочку?

— Многа не возьмеш, цяпер пластмасавых бочак поўна. Вось дзежка стаіць, адзін гандляр з Бандароў заказаў. Сказаў я яму сорак пяць злотаў, то ён і адрокся, за трыццаць узяў бы — за пятнаццаць пачак папяросаў. За такую цану то і рабіць не варта.

— А мо такія з цэлага пня бочкі рабілі Вы?

— Кадлубкі? Рабіў, а чаму ж не, са старое ліпы. Там то зноў трэба было дакладна цыркулем размерваць. Найбольш складанай справай была ўстаноўка дна. Трэба было такі кадлубак намачыць, ён крыху разыходзіўся, тады ўстаўлялася дно, і калі высыхаў і назад сходзіўся, тады закладвалася яшчэ абручык для змацавання.

— Што Вы яшчэ ўмееце рабіць?

— Усю сталярку: вокны, дзверы. І *вырабы* з мяса ўмею зрабіць; калісь са Стахам Харашэўскім хадзіў, дапамагаў яму, і так навучыўся. А пасля то ўжо сам практыкаваўся, сям'я ў мяне вялікая: вяселляў, гасцін было многа. Цяпер у масарнях не робяць ужо так, як калісь рабілі, цяпер усё парай абрабляюць.

— Колькі так усіх бочак зрабілі?

— Цяжка палічыць; многа было.

Выходзячы з панадворка заўважаю карыта паіць жывёлу, выдзяўбанае з суцэльнага пня; гэта таксама ўласная прадукцыя гаспадара.

**Аляксандр Вярбіцкі**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Пра Беларусь у Парыжы

**Гутарка з Аляксандрай ГУЖОН, палітолагам з Францыі.**

***— Гледзячы на Вас і слухаючы, цяжка сцяміць, што Вы з Парыжа. Вельмі ж ужо Вы да беларусаў падобная.***

— Мой бацька — карэнны француз, але маці з роду Дробышаў, дачка беларуса і палячкі. Я нарадзілася ў Каверон, што пад Нант. Там пражывае шмат палякаў і рускіх. Я малой дзяўчынкай спявала нават у польскім касцельным хоры. Дзед быў праваслаўны, але перайшоў у каталіцызм, жэнячыся з бабуляй.

***— Адкуль узялася ў Вас цікаўнасць да Беларусі?***

— Мне было 10 гадоў, калі я першы раз была ў Беларусі, на дзедавай бацькаўшчыне. Ведала, чаго спадзявацца, дык лёгка прывыкла да вясковых умоў, без водаправоднай вады і г.п.

Ужо як студэнтка Сарбона (на аддзяленні палітычных навук), я праводзіла стажыроўку ў газеце, якая займалася эканомікай усходніх краін. Калі ў рэдакцыі даведаліся пра мае беларускія карані, папрасілі напісаць стаццю пра Беларусь. З таго і пачалося.

***— А дзе Вы вывучылі беларускую мову?***

— Я спярша вывучала рускую мову. Дзеля гэтага я правяла 6 месяцаў у Расіі і спецыяльна жыла ў рускай сям'і. З сакавіка 1995 г. тры месяцы я пражыла ў Беларусі. Я працавала ў французскім пасольстве ў Мінску. Беларускую мову вывучыла на столькі, каб яе разумець. Гаварыць мне яшчэ цяжка — не хачу калечыць мовы, пакуль яе не вывучу дасканала.

Падчас побыту ў Мінску я цікавілася БНФ і была міжнародным наглядальнікам рэферэндуму і выбараў.

***— Як Вы скарысталі набытыя веды дома?***

— Пасля вяртання ў Францыю я паступіла на Факультэт дэмакратычных пераўтварэнняў у посткамуністычнай Еўропе пры Інстытуце палітычных навук у Парыжы, на апошні курс. Напісала дыпломную працу пра БНФ. Атрымала добрую ацэнку і лічу, што гэта добра не толькі для мяне, але і для Беларусі, калі ўзнікаюць сур'ёзныя працы пра яе.

***— Ці Вы займаліся толькі сваёй дыпломнай працай?***

— Стараюся зрабіць больш. У Мінску я сустрэлася з беларусам з Францыі Леанідам Шыманцом, а пасля вяртання — з яго дачкой Віржыніяй, якая пісала працу пра беларускі тэатр. Мы пасябравалі. Разам з Бруно Дрвескім, які напісаў кніжку пра Беларусь, у сакавіку 1996 г. мы стварылі таварыства, якое называецца „Беларускія перспектывы". Асацыяцыя для развіцця беларускай інфармацыі, даследаванняў і культуры ў Францыі. З сакавіка 1996 г. выдаем штоквартальны бюлетэнь „Беларускія перспектывы". У кастрычніку 1996 г. наладзілі канферэнцыю і выстаўку „Беларускія дні" ў Парыжы. У сакавіку г.г. прэзэнтавалі беларускіх студэнтаў з Акадэміі мастацтва. Падрыхтавалі таксама дзве саракамінутныя радыёперадачы пра Беларусь.

Часта бяруць у нас інтэрв'ю, калі нешта адбываецца ў Беларусі. Калі ў прэсе нешта памылкова пішуць пра Беларусь, пішам у гэтыя газеты і выпраўляем іхнія памылкі.

Разам з Віржыніяй рыхтуем цяпер кніжку „Гаворым па-беларуску". Гэта будзе даволі аб'ёмістая кніжка пра гісторыю і граматыку беларускай мовы, са слоўнікам і размоўнікам ды падборкай перакладаў выдатных беларускіх пісьменнікаў.

***— Як ацэньваеце цікаўнасць да беларушчыны ў Францыі?***

— Яна малая. Усё-такі мы даведаліся, што ў паасобных рэгіёнах ёсць людзі, якія супрацоўнічаюць з Беларуссю. Напрыклад, горад Клермон-Феран супрацоўнічае з Гомелем, Лімож з Гродным; усяго такіх гарадоў сем.

Наша мэта — паставіць у кантакт усіх людзей, якія супрацоўнічаюць з Беларуссю ў галіне бізнесу, культуры ці навукі, а таксама ладзіць супрацоўніцтва з беларускімі ўстановамі, якія падтрымоўваюць сувязі з Францыяй. Ёсць, напрыклад, Франка-беларускі факультэт адміністратыўных і палітычных навук у Гуманітарным універсітэце ў Мінску, які супрацоўнічае з Інстытутам палітычных навук у Грэноблі.

У нас добры кантакт і з беларускім пасольствам у Парыжы, якое служыць нам інфармацыяй.

***— І гэта ўсё ў руках двух маладых жанчын. Дык поспехаў Вам у працы, Аляксандра.***

**Гутарыў Алег Латышонак**

# Юбілей заслужанага музея

Традыцыя музейнай справы ў Белавежы сягае да другой паловы XIX ст. Пасля палявання цара Аляксандра II у Белавежскай пушчы ў 1860 г. у паляўнічым павільёне (будынак гэты існуе дагэтуль) была наладжана выстаўка памятак звязаных са знаходжаннем тут галавы Расійскай імперыі. Былі яны вывезены ў жніўні 1915 г. у Маскву. Тое ж самае сталася з экспанатамі паляўнічага музея, арганізацыя якога пачалася ў 1913 г.

Пасля I сусветнай вайны, у пачатку дваццатых гадоў, польскія леснікі арганізавалі пушчанскі музей у памяшканнях царскага палаца. У 1937 г. быў ён перанесены ў асобны будынак. Музей пратрымаўся ў ім да пачатку сямідзесятых гадоў. Потым новую музейную экспазіцыю наладзілі ва ўсходнім крыле турыстычнага комплексу, збудаванага на месцы разабранага палаца. Музей гэты быў здадзены ў карыстанне 27 чэрвеня 1977 г. З таго часу мінула чвэрць стагоддзя.

Экспазіцыя апошняга музея займае каля 1 200 кв. метраў. На гэтай плошчы паказваецца амаль 2 200 экспанатаў, якія паходзяць выключна з тэрыторы Белавежскай пушчы. Галоўныя аддзелы знаёмяць наведвальніка з фаўнай і флорай. Ёсць жа і аддзелы: агульны, гістарычны, этнаграфічны, лясной гаспадаркі, паляўнічы, геаграфіі, геалогіі і раслінасці. З ліку найбольш цікавых экспанатаў трэба назваць борці і бортнічыя прылады, калекцыю птушак, у тым ліку 80 штук турухтанаў — самцоў у шлюбным апярэнні, збор птушыных яек, два зубры, застрэленыя ў 1830 г. у пушчы праф. П. Ф. Яроцкім, а таксама лося-быка, упаляванага ў 1854 г.

Экспанаты белавежскага музея часта дэманстраваліся на сусветных і дзяржаўных выстаўках, адкуль нярэдка вярталіся з залатымі або сярэбранымі медалямі. Асабліва датычыць гэта чэрапаў зуброў, якія паказваліся на Міжнародных паляўнічых выстаўках у Бухарэсце (1978) і Нітры (1980), на Польскай паляўнічай выстаўцы ў Парыжы (1979) ці на Сусветнай паляўнічай выстаўцы ў Плоўдзіве (1981). З важнейшых выставак, наладжаных у самой Польшчы, музей удзельнічаў у выстаўцы „Прырода паўночна-ўсходняй Польшчы", арганізаванай у Беластоку. Выстаўляліся тады каля 50 экспанатаў з аддзела фауны.

Часовыя выстаўкі музей наладжвае таксама ў сваім памяшканні. Некалькі разоў паказваліся турыстычныя даведнікі аб Белавежскай пушчы, выдадзены на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў, ці выніки навуковых доследаў у Белавежскім нацыянальным парку. Музей паста-янна аддае свае залы для наладжвання выставак, на якіх паказваецца плён белавежскіх мастацкіх пленэраў. Час ад часу свае аўтарскія выстаўкі арганізуюць тут паасобныя мастакі (напрыклад, Анатоль Корзун з Гайнаўкі ці Ежы Карнево з Беластока). Свайго часу гасціннасцю белавежскай установы пакарысталіся Падляшска-мазурская брыгада пагранвойскаў ці беластоцкая „DESA". Гэтая апошняя ладзіла выстаўку „Жывапіс, іконы і экалагічныя ювелірныя вырабы". Да асабліва памятных трэба залічыць выстаўкі свежых грыбоў Белавежскай пушчы (1993) і здымкаў царскага палаца ў Белавежы (1994). У падрыхтоўцы першай з названых выставак прымаў удзел Музей прыроды з беларускай часткі Пушчы.

У музеі доўгі час змяшчалася навуковая бібліятэка Белавежскага нацыянальнага парку (зараз яна ў сядзібе дырэкцыі БНП). Тут таксама былі апрацаваны першыя чатыры тамы белавежскай бібліяграфіі. Пастаянна накопліваюцца калекцыі насякомых і пазваночных жывёл. Камплектуюцца прэсавыя выразкі артыкулаў, у якіх упамінаецца тэрыторыя Белавежскай пушчы і жыццё тутэйшага насельніцтва.

Музей удзельнічае ў падрыхтоўках і перападрыхтоўках экскурсаводаў з Белавежы і Гайнаўкі, вядзе заняткі са студэнтамі, якія ў Белавежы адбываюць веснавыя ці летнія практыкі. Супрацоўнічае з мясцовымі і пазамясцовымі навуковымі і асветнымі ўстановамі. Саўдзельнічае ў арганізацыі навуковых сесій.

На працягу чвэрці стагоддзя праз белавежскі музей прайшло каля 2 млн. 60 тыс. наведвальнікаў, у тым ліку каля 130 тыс. з заграніцы. Мільённым наведвальнікам (5 жніўня 1983 г.) быў вучань пачатковай школы ў Гданьску Мацей Краўчык, двухмільённым жа (21 ліпеня 1996 г.) — ліцэістка з Варшавы Караліна Наройчык.

Музеем шмат гадоў кіраваў цяперашні дырэктар БНП д-р інж. Чэслаў Акалаў. Пасля яго коратка кіраўніцтва бралі Януш Гэйдук і Пётр Бартызэль — абодва з Лодзі (апошні нечакана памёр у 1992 г.). З 1992 г. хавальнікам фондаў музея з'яўляецца мгр інж. Богдан Ярашэвіч, выпускнік Ляснога факультэта Сельскагаспадарчай акадэміі ў Кракаве; сам ён родам з Беласточчыны.

Белавежскі прыродазнаўчы музей падлягае непасрэдна Белавежскаму нацыянальнаму парку. У бліжэйшы час прадбачваецца змена яго экспазіцыі і перабудова будынка, у якім ён зараз змяшчаецца.

**Пётр Байко**

# Праваслаўны Патрык

Яшчэ пару гадоў таму неяк дзіўна гучала ў царкве, калі святар маліўся „за здравие" Казімежа, Гэнрыка, Тэрэсы, Гражыны, ці „за упокой души" Францішка, Мечыслава, Ядвігі, Гэнавэфы, Гэртруды. Сёння дзіўна гучыць, калі сярод Патрыкаў, Патрыцыяў, Пшэмкаў, Ізабэляў, Збігневаў, Губэртаў, Робэртаў, Эдытаў, Ёлянтаў з'явіцца імя нейкага Міколы, Аляксандра, Васіля, Веры, Надзеі, Людмілы. Часам святары моляцца за маладых праваслаўных хрысціян, якіх імёны былі ўзяты бацькамі з амерыканскіх тэлесерыялаў. Не абазначае гэта, што такія імёны атрымалі яны падчас хрышчэння. Некаторыя, магчыма, не будуць нават ведаць, якога нябеснага ахоўніка выбраў значылі ім хросныя бацькі падчас таінства хрышчэння.

Беларуская моладзь, якая дзесяткі гадоў выхоўваецца ў духу нацыянальнага рэлятывізму, беспраблемна магла пераймаць усе ўзоры паводзін палякаў, адкідаючы спадчыну сваіх продкаў. Сёння, аднак, калі да Нарвы і Буга дайшла амерыканская хваля, узорам для нашых Войтусяў, Эдыткаў, Пшэмкаў з'яўляюцца фларыдскія бізнесмены, маладыя нью-йоркскія паліцыянты, сакратаркі ўсялякіх Блейкаў. Дарэчы, у польскім тэлебачанні, апрача амерыканскага рэпертуару на польскай мове, няма нічога асаблівага, што прыцягвала б увагу маладога чалавека. Польскія традыцыяналісты нават прабуюць паўстрымаць тое, што непазбежнае, значыць, поўную амерыканізацыю культурнага жыцця і ўзораў паводзін. Але ксяндзы так ці інакш будуць штораз часцей хрысціць маладых католікаў імёнамі пратэстанцкіх, нават не святых, а проста герояў экрана. Але калі ў царкве маладыя мамы ўціхамірваюць сваіх Войтусяў, Францішкаў, Стаськаў ці Патрыкаў, перад ксяндзамі да святой камуніі стаюць штораз часцей Арнольдзікі, Джастынкі, Джэксонікі.

Маладыя беларусы таксама вельмі трапна акрэслілі бліжэйшую будучыню. Нарадзіліся сярод „нашых людзей". Справа нацыянальнасці была адным з вялікіх сямейных сакрэтаў. Тыя, якім пашанцавала ўпершыню пабачыць свет у горадзе, як першую мову пачулі „гарадскую". Як аказалася, была гэта таксама іх матчыная мова. Карысталіся ёю кардыналы, партсакратары і апазіцыйныя салідарніцкія дзеячы, знакамітыя акцёры і літаратары. Ненатуральным было б, калі б тыя праваслаўныя Роберты, Пшэмкі, Патрыкі з Беластока сталі, напрыклад, беларусамі (якім чынам?). Толькі нядобрыя людзі, калі даведваліся пра веравызнанне нешчаслівцаў, заўсёды сумняваліся ў іх польскасці, таму што „Polak-katolik" — гэта не толькі лозунг, як здавалася нашым Патрыцыям, але штодзённая польская рэчаіснасць. Сёння, калі з'явілася амерыканская культурная зона, некаторыя „нашы" хацелі б трапіць туды хутчэй, чым палякі. Неўзабаве будзем пэўна мець сваіх Блейкаў і Джэксонікаў. Аднак „наш", незалежна колькі разоў апранаўся б у чужую скуру, заўсёды астаецца „нашым". Як бы не пераўтвараўся ён у паляка, казака ці амерыканскага каўбоя, у сапраўднасці не надта далёка адышоў ад свайго дзеда грамадоўца ці капэзэбоўца. Нават цёмныя акуляры на фоне лысага чэрапа ўнука Федзіка ці Алёшы не зробяць з яго кагосьці іншага, кім з'яўляецца ён у сапраўднасці. На працягу двух ці трох пакаленняў не прападае ў псіхіцы чалавека тое, што яго продкі накоплівалі стагоддзямі. Таму ў Беластоку заўсёды будуць „нашы", толькі іншымі чым іхнія продкі імёнамі ахрысцяць сваіх дзяцей, а дзеці ўсё-такі надалей астануцца „нашымі".

**Васіль Кургановіч**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Дамы і людзі беларускай правінцыі

**Настаўнікі сярэдніх школ Слоніма — жыхары інтэрната ў былым базыльянскім манастыры ў прыгарадзе Альбярціне з зайздрасцю глядзяць на мураваную стайню ў колішнім маёнтку пана Пуслоўскага: *У такіх умовах нам бы жыць!***

Будынку стайні пашанцавала ў сённяшні дзень. Апынуўся ён у прыватных руках і салідныя сцены з чырвонае цэглы, калі скончыцца аднаўленне, паслужаць чалавеку, як служылі многія гады коням.

Апошні рамонт у манастыры, відаць, праводзіўся айцамі базыльянамі. Усю пазнейшую гісторыю будынка і ваколіцы можна вывучаць па напластаваных знішчэннях сцен і даху. Царкву, у якую ён утыкаецца, адрамантавалі праваслаўныя і правяцца ў ёй ужо багаслужбы. Які лёс чакае манастырскае збудаванне — невядома. Адно ўлады павінны ўжо падумаць, куды перасяліць жыхароў інтэрната, калі ён канчаткова разваліцца. Бо самі яны са сваёй мільённай зарплаты (за долар у канцы мая плацілі 27 тысяч рублёў) на кватэру не адкладуць.

На Брэсцкай вуліцы ў Слоніме стаяць інтэрнаты камвольна-прадзільнага камбіната. На агароджаным высокім плотам дворыку сушыцца бялізна. Сем'і жывуць тут дзесяцігоддзямі, гадуюць дзяцей, выпраўляюць іх у свет. Зношаную вопратку на расцягнутых пад голым небам шнурках замяняе новая, а людзі так і застаюцца ў тымчасовым становішчы.

Непадалёк робіць бізнес нейкі прадпрымальны чалавек. Пабудаваў драўляныя будкі, у якіх прадае піва „Лідскае", якое лічыцца самым лепшым у Беларусі. Прывозіць яго проста з бровара з Ліды на сваёй машыне. Будкі адчынены круглы год.

Лепшы бізнес, які не патрабаваў штодзённай самаахвярнай натугі, зрабілі ў Слоніме расейскія вайскоўцы. Для *адступаючай* з Германіі арміі туркі пад Слонімам пабудавалі адмысловы гарадок. *Тыя, хто там павінны былі жыць, даўно ўжо ў Расеі,* — кажа знаёмы, — *а кватэры, між тым, прадалі яны з вялікай выгадай для сябе.*

Трывалым, хаця пасрэднім элементам выхаду Савецкай Арміі з Нямеччыны з'яўляецца ў Слоніме не толькі гэты пасёлак, але і большая чым звычайна колькасць смуглявых дзяцей у наваколлі. Наўрад, аднак, ці будуць яны ўводзіць тут культурную разнароднасць і працягваць веру сваіх бацькоў і традыцыі беларускіх мусульман. Тым больш, што згарэла слонімская драўляная мячэць.

А вось мураваная сінагога ў цэнтры горада — стаіць. Апушчаная, абдзёртая, заваленая ўсярэдзіне смеццем, але трымаецца. Пэўна датрывала б да нашых дзён і непадалёкая царква, каб не ўзарвалі яе пры Хрушчове сучасныя варвары. Цяпер праваслаўныя стараюцца яе адбудаваць, хаця справа замаруджваецца з-за недахопу сродкаў.

**У Слоніме, хаця большасць насельніцтва праваслаўная, працуе адна царква і тры касцёлы.** У вернутым з руіны касцёле св. Андрэя надпісы на дзвюх мовах: польскай і беларускай. Прычым польская — гэта далёкі ад стандартаў сучаснай літаратурнай даваенны крэсовы варыянт. **Ксёндз у нас цяпер тутэйшы,** — пацвярджае здагадкі мясцовая дзяячка Саюза палякаў. **Тым не менш, багаслужбы ідуць папольску. Кніжачкі для набажэнстваў таксама на гэтай мове, толькі дзеля лепшага разумення — рускімі літарамі.** Па-беларуску прабаваў служыць адзін святар з Польшчы, але менавіта яго ўлады выгурылі з Беларусі. *Тут у ваколіцы яшчэ адзін ксёндз немец спрабуе гаварыць па-просту,* — працягвае расказ слонімская палячка, — *аднак яго цяжка зразумець.*

* * *

Беларуская правінцыя жыве сваім тэмпам. Азіраючыся на Менск, не спяшаючы выбягаць наперад са спробамі нейкіх радыкальных змен, якія б маглі абярнуцца для яе ліхам. І так вырашаецца ўсё ў іншым месцы.

У тых, каму хочацца нешта зрабіць, пераважна няма на гэта сродкаў. Прыкладам можа быць група людзей, якая пачала выдаваць „Газету Слонімскую" (была такая польская да вайны). Пішучая машынка для іх, гэта ўжо рарытэт. Пра камп'ютэр могуць сёння толькі марыць.

Не ведаю, з якімі марамі і спадзяваннямі прыйшлі нядзельным вечарам дзяўчаты ў рэстаран „Слонім", але, чамусьці, за столікамі і на паркеце амаль не было мужчын. Так і разыходзіліся тыя дзяўчаты адны. У пэўным сэнсе, уяўлялі яны сабой незбывальныя мары беларускай правінцыі.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*



*Жыхары гэтага інтэрната з зайздрасцю глядзяць на...*



*...колішнюю стайню.*

# Меншасці на допыце

**Удзел нацыянальных меншасцей у агульным ліку грамадзян Польшчы самы нізкі ў Еўропе — вызначаецца ён на ўзроўні 3 працэнтаў. Падобным вынікам можа пахваліцца толькі Ісландыя. Становішча гэтага — паводле Марка Навіцкага, старшыні Хельсінскага фонду правоў чалавека ў Варшаве — дагэтуль не ўмее выкарыстаць польская палітыка, якая магла б насмерць заняньчыць свае меншасці, кажучы пры гэтым Еўропе: глядзіце і пазайздросцьце нам нашай трактоўкі нацыянальных меншасцей...**

У днях 31 мая і 1 чэрвеня г.г. Хельсінскі фонд правоў чалавека ў Варшаве наладзіў сустрэчу лідэраў нацыянальных меншасцей. Галоўным пытаннем гэтага форуму сталі разнастайныя аспекты парушэння грамадзянскіх правоў асоб, якія належаць у Польшчы да нацыянальных меншасцей. Нацыянальныя меншасці знаходзяцца ў полі зроку Фонду, бо ў асяроддзі сутыку меншасці з большасцю верагоднасць канфлікту ці парушэння грамадзянскіх правоў павышаецца. Фонд працуе ў некалькіх напрамках. З'ўляецца ён інстытутам, які збірае інфармацыю пра выкананне грамадзянскіх правоў у Польшчы — яго рапарты трапляюць у міжнародныя арганізацыі і інстытуты, якія займаюцца правамі чалавека ў свеце. Фонд вядзе таксама абучэнні ў галіне правоў чалавека, адміністрацыйнага і міжнароднага заканадаўства.

З пункту гледжання грамадзяніна ўсё гэта выглядае мала практычна. Аднак трэба тут дапоўніць, што Хельсінскі фонд правоў чалавека ангажуецца таксама і ў судовыя працэсы, дзе парушаны інтарэс адзінкавага грамадзяніна. Прычым трэба заўважыць і тое, што падбор такога працэсу адбываецца вельмі ўважліва. Неабходнаю умовай ангажаванасці штаба спецыялістаў Фонду ў абарону грамадзяніна з'яўляецца моцны публічны інтарэс усёй справы. Інакш кажучы, справа павінна быць агульнай для шырэйшай супольнасці грамадзян (напрыклад, нейкай нацыянальнай меншасці). Выйгрыш справы ў судзе, пры адпаведнай яе распрапагандаванасці ў сродках масавай інфармацыі стварае прэцэдэнт, які ў далейшых справах падобнага характару стаецца юрыдычнаю нормай інтэрпрэтацыі законаў.

На сустрэчу лідэраў нацыянальных меншасцей з'явіліся прадстаўнікі армян, беларусаў, караімаў, кашубаў, літоўцаў, лэмкаў, немцаў, ромаў і ўкраінцаў. Дыяпазон закранутых імі ў дыскусіі спраў быў даволі шырокі. Супольнаю для немцаў, украінцаў і лэмкаў справай была канфіската маёмасці ў асоб, якіх закранулі высяленчыя акцыі. Як аказваецца, справу гэту нельга вырашыць пакуль не пачнецца праграма агульнай рэпрыватызацыі ў краіне. Усе меншасці звярнулі ўвагу на брак намаганняў міністэрства нацыянальнай адукацыі дзеля павышэння ўзроўню навучання моў нацыянальных меншасцей у Польшчы. Нямецкая меншасць, якая не мае ніякага клопату з сабраннем адпаведнай колькасці дэкларацый дзеля арганізацыі навучання нямецкай мовы ў школе, часта сустракаецца з перашкодамі адміністрацыйнага характару — дэкларацыі гэтыя дзесьці прападаюць, бракуе таксама праграм навучання і настаўнікаў (!). Нямецкая эліта ў Польшчы — патэнцыяльныя настаўнікі мовы — часта ўцякае ў Федэратыўную Рэспубліку або паступае на працу ў камерцыйныя фірмы ў Польшчы. Паволі зазначаецца аднак і адваротная тэндэнцыя — час ад часу здараюцца вяртанні ў Польшчу асоб, якія па разнастайных прычынах выехалі ў мінулым у Заходнюю Нямеччыну. Немцы і літоўцы звярталі таксама ўвагу на брак талерантнасці — знішчаюцца або апаганьваюцца помнікі і магілкі меншасцей. Характэрная рыса гэтай справы — абыякавасць праваахоўных органаў, якія, праўда, выконваюць усе фармальныя дзеянні, але выяўленне злачынцаў нулявое.

У дыскусіі ўсімі меншасцямі закранулася справа доступу да сродкаў масавай інфармацыі і вобліку меншасцей, які ствараецца ў гэтых жа сродках. Як здаецца, самае выдатнае вырашэнне прысутнасці сваёй меншасці ў электронных медыях знайшлі немцы. Яны заснавалі прадусэнцкую суполку дзеля стварання праграм пра немцаў і прэзентацыі іх у мясцовым публічным тэлебачанні. Клопат з'явіўся аднак з іншага боку — нямецкая перадача чамусьці не можа атрымаць устойлівай гадзіны выпуску ў эфір.

У асобнай сітуацыі, несумяшчальнай з ніякай іншай меншаснай групай, знаходзяцца польскія ромы. Шанцы вырвацца гэтай групе з кола беднасці ды грамадскай дэградацыі ніякаватыя. Нейкай надзеяй з'яўляюцца тут спробы адраджэння рамяства, якім ромы былі вядомыя ў мінулым. Дзеля гэтага патрабуюцца аднак крэдыты, якіх банкі ромам звычайна адмаўляюць. Ромы маюць таксама вялікія цяжкасці ў пасыланні дзяцей у школы, хаця, як даказваюць даследаванні гэтай меншасці, ромскія дзеці выяўляюць павышаныя здольнасці ў артыстычных і матэматычных прадметах.

Дыскусія, некаторыя матывы якой я тут прадставіў адбылася 31 мая. Наступнага дня госцем Хельсінскага фонду правоў чалавека быў Міхал Ягела — упаўнаважаны прэм'ер-міністра па пытаннях нацыянальных меншасцей. М. Ягела сказаў, што палітыка польскага ўрада ў дачыненні да меншасцей ад 1989 г. стабільная. Фінансавая падтрымка меншасцям з боку дзяржавы павялічваецца хутчэй, чымсьці агульныя выдаткі ўрада на культуру ў Польшчы. 60 працэнтаў дафінансавання меншасцей складаюць выдаткі на падтрымку меншаснай прэсе. У сувязі з гэтым, сказаў М. Ягела, было б рацыянальна, каб меншасная прэса належала найбольшай і самай уплывовай арганізацыі данай меншасці. Узнікае тут пытанне, каму мае належыць „Ніва", — запытаў М. Ягела, чым і даказаў асаблівую ўвагу польскага ўрада да беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

**Аляксандр Максімюк**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Гданьскія замалёўкі

***(пачатак у папярэднім нумары)***

**19.05.1997**

Гэтага дня мы наведалі Гдыню. Ехалі туды праз горад Сопат, Гданьск і Гдыню. Гэтыя гарады злучаныя паміж сабою. Паміж імі няма ні палёў, ні лясоў, толькі хаты і дрэвы.

У Гдыні мы наведалі Марскі музей. Там было шмат розных рыб, каралаў. Памачылі таксама ногі ў моры.

Пасля абеду пайшлі мы ў Нацыянальны музей, дзе глядзелі выстаўку „Залатыя вароты" з нагоды тысячагоддзя горада. Вечарам пазнаёміліся з беластачанамі. Мы з імі гулялі ў розныя гульні, спявалі.

*(Анджэла Быкава, Вільня)*

**Занатоўкі беластачан**

Калі мы ехалі ў Гданьск, я захаплялася прыгожымі краявідамі. Найбольшае ўражанне на мяне рабілі ўзгоркі з зялёнымі лясамі і палі з маладзенькай рунню. Вельмі падабаліся таксама азёры, якія часта з'яўляліся за акном цягніка. Усё было такім незвычайным і дагэтуль неадкрытым. У жыцці прырода адыгрывае вельмі важную ролю. На жаль, людзі ў пагоні за багаццем не заўсёды бачаць прыгажосць нашай зямлі. Хаця дарога ў Гданьск доўгая і цэлы дзень трэба ехаць, я не нудзілася.

У Гданьску прывітала нас група моладзі з Вільні, якая пабывала тут ужо два дні. Разам з імі былі спадарыня Лена Глагоўская і Цэліна.

Ідучы ў гасцініцу, я не ведала куды глядзець, бо амаль усё вартае было ўвагі. Найбольшае ўражанне рабілі старажытныя будынкі і вежы храмаў. У Гданьску з нагоды тысячагоддзя насаджана многа прыгожых кветак, між іншым фламандскіх цюльпанаў.

Калі я пабачыла нашу гасцініцу, я не верыла свайму шчасцю. Нас пасялілі ў польска-нямецкім доме прымірэння імя св. Максымільяна. Шчыра сказаўшы, я дагэтуль не бачыла прыгажэйшай гасцініцы. Тут адчувала сябе важнай асобай. Пасля вячэры мы наладзілі вечарыну. Там мы пасябравалі з віленчукамі. Я першы раз сустрэла грамадзян Літвы, якія вучацца ў беларускай школе. Спадар Сяржук Вітушка прыдумваў нам цікавыя гульні. Разам з віленчукамі мы спявалі песні з Сустрэч „Зоркі". Як заўсёды, так і сёння мяне заваражыла калыханка ў выкананні спадара Алега Кабзара.

*(Ірэна Кулік)*

**20.05.1997, Кашубы**

Дзень прывітаў нас дажджом. Я не мог дачакацца снедання, на якое спазніўся 10 хвілін.

*(Міхась Сцепанюк)*

Сёння мы паехалі на Кашубы. Па дарозе спявалі беларускія песні. Нашым сябрам, віленчукам, вельмі спадабаліся нашы песні. Асабліва „Жыта маці" (макарэна) і „Дармо Ясю ходзіш" (блюз). У горадзе Картузы мы наведалі сярэдневяковы касцёл з дахам напамінаючым века труны.

*(Ірэна Кулік)*

Вельмі міла прывіталі нас вучні і настаўнікі кашубскай школы ў Гладніцы. Для мяне было вельмі цікава паслухаць кашубскую мову.

*(Бася Казімерук)*

Там я даведаўся многа пра кашубаў. Некаторыя лічаць іх немцамі, таму што кашубы доўгі час жылі пад панаваннем Нямеччыны. Але мова ў іх славянская, старажытная. Гербам кашубаў з'яўляецца чорны грыф на жоўтым полі.

*(Міхась Сцепанюк)*

Дырэктар школы, Вітальд Баброўскі — гэта вельмі цікавы чалавек. Мяне здзівіла інфармацыя, што кашубская мова для спадара Баброўскага не зусім родная, бо яго маці — слянзачка. Жонка Галіна таксама полька з Віленшчыны. Спецыяльна па жаданні спадарыні Баброўскай мы праспявалі песню „Касіў Ясь канюшыну".

*(Ірэна Кулік)*



*Дзеткі з кашубскай школы ў Гладніцы праспявалі нам свае песні.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Паэтка і заадно настаўніца кашубскай мовы Яраміра Лабуда прачытала нам свае вершы. Таксама і вучні гэтай школы дэкламавалі нам вершы і спявалі песні. У Гладніцы дзеці вучацца толькі да трэцяга класа.

*(Бася Казімерук)*

Мяне захапілі экспанаты, якіх так многа ў класе. На сценах многа прыгожых дзіцячых малюнкаў. У зале мы пабачылі народныя экспанаты, між іншым прылады для табакі. Цікава было пабачыць народную вопратку. На жаль, я вельмі мала разумела кашубскую мову.

*(Ірэна Кулік)*

За школай у Гладніцы знаходзіцца капец св. Войцеха. Яго пабудавалі вучні разам са сваімі настаўнікамі і бацькамі. Кашубы — народ каталіцкага веравызнання.

*(Бася Казімерук)*

Пазней мы наведалі этнаграфічны музей у Вдзыдзах-Кішэўскіх. Там я пабачыў кашубскія хаты, хлявы, ветракі.

*(Міхась Сцепанюк)*

Вялікае ўражанне на мяне зрабіла старая школа. Калі я села за старую парту, праз хвілінку адчувала сябе вучаніцай гэтай школы. Цікава выглядалі інтэр'еры сялянскіх хат і хлявоў. Найбольш арыгінальнай прыладай паказалася мне масла-бойка, якая выглядам нагадвае дзіцячую калыску, а таксама хлебная печка, якую кашубы будавалі на панадворку, каб летам у хаце не было горача.

*(Ірэна Кулік)*

* * *

Думаю, што ў час такіх экскурсій кожны з нас думае пра сваю мову і нацыянальнасць. Дзякуючы сябрам аднадумцам чалавек перастае саромецца сваёй іншасці.

*(Бася Казімерук)*

Пасля падарожжа на Кашубы я зразумела, што чалавек заўсёды павінен памятаць пра сваіх дзядоў і прадзедаў, бо як гаворыць беларуская паэтка Ларыса Геніюш

*Хто забыў сваю мову,*
*Сябе губляе.*
*Хто забыў сваіх продкаў,*
*Усё згубіў.*

Гэта найшчырэйшая праўда і я не ўяўляю сабе, каб было інакш.

*(Ірэна Кулік)*

***(працяг будзе)***

## Крыжаванкі № 24

### *Польска-беларуская панарамная крыжаванка*

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Gad | ┐ | Rząd | ┌ | Upominki | ┌ | Mag |
| Porządek | | | | Dom | | Kat |
| └ | ╷ | | ╷ | | | ╷ |
| Droga | — | | | | | |
| Dym | | — | | 📖 | | |

### *Магічная польска-беларуская крыжаванка*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Bebech brzuszysko — | | | | |
| Rząd — | | | | |
| Sala — | | | | |
| Adam — | | | | |

**Адказ на крыжаванку з 20 н-ра:** храпа, этап, цырк, дрэўка, абзац, лік, баяр, аса, бор, страта, дотык; будка, блакіт, рэцэнзія, матыў, акрабат, парк, соты, шапка, хмара.

Узнагароды — **экалагічныя аўтаручкі** — выйгралі: **Павел Зубрыцкі** з Нарвы, **Марта Сельвясюк** з Махнатага, **Дарота Дарашкевіч** з Ціс, **Грышка Цітко** з Гарадка і **Рэната Харытанюк** з Барка.

Віншуем!

Узнагароды прыдбала Беларускае таварыства „Хатка" з Гданьска.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Этнаграфічны куточак

# Папараць-кветка

Купальская ноч. Поўнач. У гушчары зззяе мігатлівы агеньчык. Гэта зацвіла папараць-кветка. Хто яе сарве, стане празорлівым, будзе разумець гаворку дрэў, звяроў, шэпат траў, шчаслівым адкрываць схаваныя ў зямлі скарбы. Папараць-кветку здабыць нялёгка. Яе ахоўваюць, акружаюць розныя пачвары, страшыдлы. Угледзець і сарваць гэтую чароўную кветку можа толькі адважны і сумленны чалавек. Так гаворыць старажытная беларуская легенда.

Адлюстроўвае яна ідэалы нашых продкаў — веру ў шчасце, імкненне спазнаць навакольны свет, таямніцы зямлі.

Варта дадаць, што легенда пра папараць-кветку атрымала шырокае пераасэнсаванне ў беларускай літаратуры, мастацтве, музыцы. Сустракаем яе ў творчасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, Міхася Чарота.

Зорка

# У зялёным гаю

Ужо кветкі расцвілі
І сонца засвяціла,
Расяністая імгла
Цэлы гай пакрыла.

Над нівамі птушкі,
Весела спяваюць.
Ручаёк плыве
У зялёным гаю.

Свежае паветра,
Сіняе неба,
Дождждык...
Прыгожы світанак...
Усё, чаго прыродзе трэба.

**Эва Прафірук,**
**клас VI „а" Пачатковай школы № 3**
**у Бельску-Падляшскім**



*Хлапчукі з Гарадка.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Паўстанне 1863 года на Беларусі

У 1854 г. Расія прайграла вайну, якую яна вяла супраць Турцыі, Францыі і Англіі. Год пасля памёр цар Мікалай І. Зняволеныя народы Імперыі пачалі больш смела дамагацца свабоды, а рускія дэмакраты — рэфармавання феадальнай дзяржавы.

У студзені 1863 г. першымі вырвацца на свабоду паспрабавалі палякі, але царскія ўлады, умела выкарыстоўваючы варожасць сялян да шляхецкіх паўстанцаў, за год прывялі іхні рух да заняпаду.

У лютым першыя сутычкі з царскім войскам пачаліся на Беларусі. Тут таксама пачала паўстанне спаланізаваная беларуская шляхта. Вясной цар Аляксандр II назначыў віленскім генерал-губернатарам графа Аляксандра Мураўёва, неўзабаве названага на Беларусі „вешальнікам". Мураўёў перш за ўсё адбіраў усім падазроным ва ўдзельніцтве ў паўстанні маёмасць. Менавіта таму вельмі хутка прымусіў ён шляхту прадэманстраваць лаяльнасць Аляксандру II. Толькі там, дзе паўстаннем кіравалі маладыя беларускія рэвалюцыянеры і дзе яно атрымала падтрымку сялянства, ішло змаганне яшчэ на пачатку 1864 года.

У Гродзенскай губерні паўстаннем кіраваў Кастусь Каліноўскі, родам з Мастаўлян, што ў Гарадоцкай гміне. Яшчэ да паўстання прабываў ён сярод сялян, ведаў іх праблемы і так як яны валодаў беларускай мовай. З сялянамі спалучала яго таксама супольная ідэя нацыянальнага вызвалення і вызвалення іх з-пад прыгоннай залежнасці ад шляхты. Беларускія рэвалюцыянеры вымушаны былі тады змагацца супраць апалячанай шляхты і расейскай акупацыйнай улады.

Каліноўскі выдаваў паўстанчую газету „Мужыцкая праўда", у якой тлумачыў чаму беларусам патрэбна свабода, чаму Беларусь павінна быць вольнай краінай. У снежні 1863 года паўстанне на Беларусі ў сапраўднасці было ўжо падаўленае. Не здаваўся толькі Каліноўскі, але і ён пры канцы студзеня 1864 г. трапіў Мураўёву ў рукі.

Паўстанне на Беларусі паказала, што свабоду беларусам ніхто не падарэ, што безупынна трэба за яе змагацца. Таму неўзабаве пачалася на Бацькаўшчыне яшчэ больш заядлая барацьба — за душу беларускага народа. Чужынцы, якія ўварваліся ў беларускі дом, імкнуліся пераканаць гаспадароў, што лепш ім будзе стаць расейцамі або палякамі. Беларускай інтэлігенцыі, гэтым разам пры дапамозе слова, прыйшлося дзесяткамі гадоў змагацца з крыўдаўшчыкамі і ідэйным прыгнётам з боку суседніх імперыяльных народаў.

# Чароўная бярозка

Жыў у вёсцы просты чалавек Янка. Быў ён бедны. Аднойчы раніцай выйшаў Янка з хаты ды бачыць — пад самым парогам расце бяроза.

— Глядзі ты, — здзівіўся Янка. — Вырасла за адну ноч такая вялікая, высякаць трэба.

— Не сячы мяне, — чалавечым голасам папрасіла бяроза. — Я табе за гэта падарунак дам.

Згадзіўся Янка. І тут з бярозы ўпала падушачка, белая, вышытая залатымі ніткамі.

А падушачка была не простая: як пакладзеш на яе галаву, адразу засынаеш, і пачынаюць сніцца прыгожыя сны.

Даведаўся пра гэту падушачку нават сам цар. І адабраў яе ў Янкі. Расказаў Янка пра сваю бяду бярозе. А тая кажа:

— Не бядуй, я дам табе другі падарунак.

І з галін бярозы ўпала світка, белая, вышытая залатымі ніткамі. А світка была не простая: як надзенеш яе, пад дажджом і снегам не прамокнеш.

Пра яе даведаўся цар. Адабраў світку ў Янкі.

— Навошта такая рэч бруднаму мужыку? — гаварыў цар.

А сам надзене яе і ідзе вайной на суседняе царства. Вернецца дамоў і бух на падушачку спаць, чароўныя сны глядзець.

Прыйшоў Янка да бярозы і кажа:

— Адабраў у мяне цар і світку.

— Не плач, — супакоіла яго бяроза.

Раптам упаў з яе мяшок. Белы, вышыты залатымі ніткамі. Расказала яна, што трэба рабіць, і адправіла ў палац да цара. Прыходзіць Янка ў палац, а тут яго затрымлівае варта.

— Я з падарункам да цара. Нясу яму такі падарунак, што ён ад радасці будзе крычаць, вы толькі не заходзьце.

Прыйшоў Янка да цара і кажа:

— Я да вашай светласці з падарункам.

— Ну добра, давай, што прынёс.

— А аддасі падушачку і світку?

— Нічога я табе не аддам, — пачаў злавацца цар.

— Ну тады трымайся.

Развязаў Янка мяшок, а адтуль дзесятак шалёных сабак выскачыла. Спужаўся цар. І ўсё аддаў Янку. Так і жыў Янка, пажываў, дабро нажываў.

**Людміла Каленік, 6 клас.**
*(Казкі дзяцей Беларусі)*

# Нарваўскія песні

Даўно-даўно ў месцы, дзе цяпер ляжыць Нарва, здараліся таямнічыя падзеі. Над ракой шумела непраходная пушча. У лесе жыла дзяўчынка Карна. Яе бацькі былі рыбакамі. Карна вельмі кахала сваю пушчу і рэчку Нарву. Цэлымі днямі бадзялася яна па лесе, каб прыслухоўвацца песням птушак, шуму магутных дрэў і бурліваму цячэнню ракі. Пазней сама прыдумвала песні і спявала іх сваім лясным сябрам.

Аднаго разу Карна ўбачыла заплаканую сірэну ў залатой кароне. Яе слёзы сцякалі па ружова-чырвоных шчоках і падалі ў раку. Карна падышла да берага і папытала:

— Чаму плачаш, прыгожая сірэна?

— Я плачу..., — не пераставала хліпаць рачная паненка, — ... я плачу, бо не магу спяваць. Я забыла ўсе свае песні!

Карна хвілінку падумала, зірнула на заплаканую сірэну і сказала:

— Не плач, каралева. Я табе дапамагу. Бяры ты ўсе мае песні і спявай, як і раней спявала.

Карна праспявала сірэне ўсе свае песні. Яна ведала, што толькі тады зможа дапамагчы рачной каралеве, калі сама стане маўчаць і ўжо ніколі не праспявае ніводнай сваёй чароўнай пушчанскай песні.

— Вельмі табе дзякую, дзяўчынка, — узрадавалася сірэнка. — Пачакай хвілінку. Ты мне ахвяравала свае найдаражэйшыя песні. Цяпер і я хацела б табе нешта падарыць. Я магу здзейсніць тваё любое жаданне. Кажы, не саромся.

— Я хацела б, каб ты кожны вечар спявала ўсім жыхарам пушчы свае песні. І я з прыемнасцю паслухала б твой канцэрт. А найбольш мне мілагучная песня пра „мой край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла".

— Добра, — узрадавалася сірэна, — я таксама вельмі люблю гэту песню.

З тае пары Карна стала кожны вечар выглядаць сірэнку. А калі бліскучая каралева вынырвала з ракі і пачынала запяваць пушчанскія напевы, заміраў увесь свет. Каля Карны сядзелі птушкі, прыбягалі дзікія звяры і ўсе слухалі чароўныя песні, у якіх шумелі магутныя дубы, спявалі птушкі, бурліла рака і плакала па сваім голасе дзяўчынка.

Сірэнка спявала доўга, а яе прыгожа-сумныя песні плылі па Нарве далёка, далёка...

**Аня Тэслюк**
**VI кл. ПШ у Новым Норніне**




*Гэту сірэну намалявала пяцігадовая Наталька з беларускага прадшколля ў Беластоку.*

Васіль Жуковіч

# Дажджавая калыханка

Ночка чорнаю бусліхай
прыляцела на зямлю.
Ходзіць дожджык ціха-ціха,
шэпча песеньку сваю:

„Спіце, пушчы і палеткі,
спіце, птушкі, мурашы,
спіце, дрэвы, спіце, кветкі,
шу-шу-шу-шу, шы-шы-шы!

Гром заснуў у калясніцы
і маланак не відаць.
Хай усім цудоўна спіцца,
я іду таксама спаць".



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Фестываль у Гайнаўцы

[1 ☞ працяг]

чы, а тут, пры Хрушчове, знайшліся такія змагары за лепшую будучыню, якія рыхтаваліся спаліць царкву. Днём і ноччу вартавалі прыхаджане свой храм. Бо ж бывала і так, што крыж з царквы знікаў невядома калі...

Кіраўнік ляхавіцкага хору, а заадно і настаяцель тамашняга прыхода, а. Генадзій Воран нарадзіўся таксама ў Ляхавічах. Калі яму споўнілася толькі шэсць месячыкаў, бацька кінуў маці з чацвярымі дзяцьмі. Працавала яна даяркай у калгасе і з увагі на савецкія рэаліі і сваю горкую сітуацыю баялася хадзіць у храм. Будучы настаяцель пазнаёміўся з царквою зусім выпадкова: калі было яму сем гадоў і гуляў паблізу царквы, праз адкрытыя дзверы пабачыў сабраныя там іконы. У шэрай калгаснай рэчаіснасці пабачанае там мастацтва не магло не зацікавіць хлопца і ён пачаў наведваць царкву. Вымагала гэта немалое адвагі, бо ўжо вучнем клікалі яго ў райкам; не атрымаў ён і атэстата сталасці. Гэта яшчэ больш прывязвала яго да царквы. Спяваў ён у царкоўным хоры, а бацюшка, які гэтым хорам кіраваў, траціў ужо слых, і камертон, замест да вуха, прыкладваў да зубоў. Калі стары настаяцель памёр, не знайшлося ва ўсёй епархіі наследніка, і гэты сан запрапанавалі Генадзію Ворану. І так ён быў рукапалажаны ў свяшчэнніка.

Калі спыніліся рэлігійныя ганенні, пачалі вернікі адбудоўваць і адкрываць свае храмы, аднаўляць прыходы. Настаяцель аднаго з непадалёкіх прыходаў запрасіў да сябе архірэя з Брэста і, каб дастойна сустрэць высокага госця, запрасіў таксама хор Духоўнай семінарыі з Жыровіч. Студэнты ж у той час здавалі экзамены і ніяк не маглі прыехаць. Тады ж той настаяцель звярнуўся да а. Ворана, каб яго хор прывітаў уладыку. Хор спадабаўся архірэю і ён нават пажартаваў, што такі хор можа нават у Гайнаўцы спяваць. Пасмяяліся ўсе тады з гэтага жарту ды і толькі.

Не мінуў і год, калі а. Ворану пазванілі з епархіі, што ў Ляхавічы едзе дырэктар міжнароднага фестывалю з Гайнаўкі. Такога чагосьці тут ніхто не спадзяваўся, бо хор нават у сябе не выступаў у ніякіх конкурсах. А тут сам дырэктар міжнароднага фестывалю з замежжа да іх едзе! Паслухаў дырэктар Бушко спеву ляхавічан і адразу дагавор заключае на іх удзел у сваім фестывалі! А яны, калгаснікі, ніколі ў замежжы не былі, і не надта ўжо хочацца ім у тую Гайнаўку. Колькі дзеля гэтага захадаў спатрэбіцца, пашпарты трэба вырабляць, як жа ж непатрэбныя ўжо ім... І каб гэта толькі ад іх залежала, не паехалі б! Яшчэ два дні перад пачаткам фестывалю не ехалі... Але дырэктар Бушко заўпарціўся на іх, і недзе ў высокіх установах выхадайнічаў ім праезд цераз граніцу без пашпартоў, па спіску толькі. Ну і воляй-няволяй прыйшлося ехаць. Па дарозе ў Гайнаўку спявалі яны на багаслужбе ў Сямятычах, наведалі таксама Святую Гару Грабарку. А ў Гайнаўцы журы, а таксама публіка, прысудзілі ім першае месца ў катэгорыі вясковых хораў...


*Госці Фестывалю.*


*Айцец Генадзій Воран і яго хор.*

Пацікавіўся я вёскай, якая дала перамажцаў XVI гайнаўскаму Фестывалю. У Ляхавічах жыве каля 350 душ. Як гэта на вёсцы, жывуць яны з зямлі; частка працуе ў калгасе, частка перайшла на сваё. Зямля там слабая. Прыватнікі, як бы гэта ў нас сказаць, спецыялізуюцца: а то бульбу вырошчваюць, а то жыта, а то гародніну. Калгас абрабляе ўсё, у тым лён і ячмень, гадуе таксама кароў — трымаюць іх там каля шасцісот. Дояць машынамі, малако здаюць у Драгічын, дзе перарабляюць яго на сыры. Бычкі здаюць у мясакамбінаты ў Бярозу і Пінск. Тэхніка старая, ад распаду СССР не абнаўлялася; дарагое ўсё. Нават запчастак не купляюць, толькі ладзяць у сваіх майстэрнях. Працуюць дзве заправачныя станцыі, адна дзяржаўная, другая — кааператыва прыватнікаў; паліва заўсёды ёсць. Беспрацоўе цяпер, у вёсцы адна лягчэй, бо з зямлі можна неяк пракарміцца, і таму спынілася міграцыя з вёсак у гарады. У вёсцы каля 130 дзяцей, якія вучацца ў мясцовай школе.

І яшчэ адна цікавінка: у хоры спяваюць тры дзяўчынкі — гэта дочкі а. Ворана. Усе яны нарадзіліся ў лістападзе: адна ў 1984 г., другая ў 85-м, а трэцяя ў 86-м; увіхнуўся настаяцель і праз два гады скамплектаваў усю сям'ю! І з хорам, як відаць, таксама працуе выдатна.

**Аляксандр Вярбіцкі**
*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Епіскап Авель у Орлі

Орля на Падляшшы — адзін з важнейшых цэнтраў праваслаўнага рэлігійнага жыцця на Беласточчыне. З Арлянскай гміны выводзіцца многа святароў. Напрыклад, толькі з невялікай Пашкоўшчыны ў пасляваенны перыяд праваслаўную духоўную семінарыю закончыла дзесяць чалавек, з ліку якіх восем служыць бацюшкамі.

У 1997 годзе Міхайлаўская царква ў Орлі — каштоўны помнік матэрыяльнай і духовай культуры — урачыста адзначала двухсотую гадавіну адбудовы пасля пажару. Царква, тады уніяцкая, згарэла ў 1790 годзе або крыху пазней і ўжо ў 1797 годзе была адбудавана дзякуючы намаганням тадышняга настаяцеля а. Рыгора Паеўскага. Пазней, у 1879 годзе, да царквы была дабудавана рызніца, а ў 1979—1981 гадах намаганнямі цяперашняга настаяцеля а. прат. Аляксандра Такарэўскага праводзіўся капітальны рамонт царквы — былі ўзмоцнены фундаменты і нанава пастаўлены новыя сцены і дах.

Юбілей папярэдзіла старанная падрыхтоўка да ўрачыстасці і свята Іаана Багаслова. Прыход атрымаў новы пляц насупраць царквы, які прыгожа абгарадзілі і добраўпарадкавалі. Перад храмам быў пакладзены новы ходнік, памалявалі таксама званіцу, плябанію ды агароджы вакол царквы і плябаніі.

17 мая г.г. у школьным будынку адбыўся ўрачысты сімпозіум, у якім удзельнічалі гісторыкі, духавенства, царкоўныя хоры з Орлі і Гайнаўкі, прыхаджане, запрошаныя госці і беластоцкае тэлебачанне. Да юбілею прымеркаваны быў выхад кніжкі а. Рыгора Сасны і Дарафея Фіёніка „Orla na Podlasiu. Dzieje Cerkwi, miasta i okolic”. Школьны зал упрыгожыў і частку праграмы падрыхтаваў псаломшчык Дзмітрый Мартыновіч, а я ахвяраваў царкве намаляваную мною алейную карціну з выявай арлянскага храма.

Царкоўныя ўрачыстасці адбыліся 21 мая, у дзень прыхадскога свята Іаана Багаслова. Па благаслаўленні мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Васілія прыход наведаў епіскап Люблінскі і Холмскі Авель. Ля ўвахода на царкоўны пляц уладыку прывіталі школьнікі, якіх да ўрачыстасці падрыхтаваў вікарый а. прат. Анатоль Такаюк. Ва ўрачыстым прывітанні прымалі ўдзел настаўнікі, працаўнікі Гміннай управы, ГСу і шматлікія вернікі. Пры царкве епіскапа віталі царкоўны стараста Сяргей Кулік і гуртох Брацтва праваслаўнай моладзі, а пры ўваходзе ў храм — настаяцель а. прат. Аляксандр Такарэўскі і сабранае духавенства.



Святую Літургію ўзначаліў епіскап Авель у саслужэнні 32 святароў і 3 дыяканаў з суседніх прыходаў і духоўных, якія выводзяцца з Арлянскага прыхода. У гэты дзень вернікі шчыльна запоўнілі храм і царкоўны пляц, а пахмурнае неба цудоўна праяснілася. Уладыка ўзнагародзіў Ордэнам Марыі Магдаліны І-й ступені а. прат. Аляксандра Такарэўскага, які сёлета адзначае 35 гадавіну святарства. Ордэн ІІ-й ступені быў прысвоены прыхадскому хору пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Мартыновіча. Сябры Прыхадской рады — Уладзімір Пасечнік, Сяргей Клычкоў і Сяргей Кулік — атрымалі з рук уладыкі Ордэны ІІІ-й ступені.

Епіскап Авель сардэчна падзякаваў удзельнікам юбілейных святкаванняў і паблагаславіў сабраных вернікаў, а настаяцель прыхода ўручыў уладыку кніжку аб гісторыі арлянскай царквы.

* * *

Сёлетнія святкаванні ў гонар Іаана Багаслова ўпершыню праходзілі ў цішыні. Гэтым разам ларкі з цацкамі і іншай драбязой, якія спадарожнічаюць царкоўным фэстам, размясціліся не насупраць царквы, але ўздоўж адпачынковага парку. І так павінна быць заўсёды!

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Лідка: „... каб у Рыбалах не была вёска”



*Ліда Мартынюк, кіраўнік Рыбалаўскага дома культуры.*

Лідка, як яе ўсе тут называюць, гэта значыць Ліда Мартынюк. Ужо 15 гадоў працуе яна кіраўніком Рыбалаўскага дома культуры.

Сядзімо з ёю ў адным з домакультураўскіх пакояў, дзе каралеўства лялек для лялечнага тэатра, дзе ляцяць жураўлі і стаіць слон з клыкамі, дзе на гары стаіць хатка, ёсць дрэвы і палац, грозна спаглядае на прышэльца смок і скача зробленая для тэатра лялек блыха.

Лялькі раблю я, кажа Лідка, а пасля дзеці аблепліваюць іх стырапянам, малююць, я толькі падпраўляю. Разам апранаем іх у строі, якія я крою, а дзеці іх самі шыюць рукамі або на ручной машынцы, якую я прыношу з дому. Вось Агнешка Максімюк, яна ад першага класа да мяне прыходзіць, а цяпер ужо ў пятым. Вельмі спрытная дзяўчынка! Можа будзе з яе акторка... І малюе добра.

Пагляньце, думаю сабе, што наша моладзь патрапіць зрабіць! Не то што там па лесе бегаць і курыць. Адразу пасля школы яны да нас ідуць: малююць, рэпетыруюцца. Вось дзеці кажуць: выйгралі мы (на цэнтральным аглядзе дзіцячай сцэнічнай творчасці ў Кляшчэлях, дзе занялі першае месца, — рэд.) дзякуючы вам. А я кажу: дзякуючы вашай працы, вашым здольнасцям!

Хачу адцягнуць тую моладзь ад гарэлкі, каб не трапілі яны ў муць, кажа Лідка і выразна пры гэтым хвалюецца. Яны тут і ролі развучваюць, а не ў хаце. Трэба ж зацікавіць моладзь чымсьці, выкарыстаць іх здольнасці.

У калгасе (РСП-Рыбалы) я вяду мастацкі гурток, а мо неўзабаве будзе і драматычны. Няма калі. Чатыры дзіцячыя гурткі вяду ў нашым Доме культуры: мастацкі, тэатральны, тэатр лялек і маладзёжны. Я вяла і міні-кабарэ, але яно разляцелася.

Хочацца, **каб у Рыбалах не была вёска**, каб дзеці чуліся, як з горада.

Во Ян Бурнос, псаломшчык з нашай царквы, вядзе калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы” і царкоўны хор. Яны таксама рэпетыцыі праводзяць у клубе.

— А муж Ваш, Пятро Мартынюк, таксама спявае ў „Хлопцах-рыбалоўцах”? — нясмела перарываю разважанні Лідкі.

Ой, кажа Лідка, муж на гаспадарцы. Мы ж набралі зямлі. Дваццаць гектараў апрацоўваем. А ён робіць і спявае. Але на гаспадарцы памагаем мы ўсе: і я, і мама, і 19-гадовая дачка, якая заканчвае сёлета Бельскі эканамічны тэхнікум, і нават сын-шасцікласнік.

Ізноў Лідка сваё: Вось нядаўна у РСП-Рыбалы мы зрабілі імпрэзу „І ты можаш іграць”. Выступалі вучні беластоцкіх музычных школ. Шмат гэта дало нашым дзецям. А пасля гэтай музычнай імпрэзы дзеці зрабілі вогнішча. Калгас падрыхтаваў дзецям каўбаску, якую пяклі яны самі, а таксама даў самаход, на якім прывезлі і адвезлі дзяцей у Беласток.



*Тэатр лялек, што працуе пры доме культуры ў Рыбалах.*

А запусты арганізавалі мы 7 сакавіка надта гучныя. (Лідка паказала мне ў школе запіс на відэакасеце, як усё гэта адбывалася: вельмі цікава!). Уся наша імпрэза вялася ў Доме культуры на рыбалаўскай гаворцы, па-свойму. Выступалі не толькі свае. Ала Дубец прывезла з Беластока дзявочы калектыў БГКТ, спяваў калектыў з Козлікаў, нашы „Хлопцы-рыбалоўцы”, дуэт з Рыбалаў: Ірэна Дзмітрук і Сільвія Мартынюк.

Мне асабіста на касеце, якую запісала сп. Вера Харытанюк з Паўлаў, найбольш спадабалася выступленне Лідчынага тэатра лялек. Як мелі выступаць, то Лідка запісала на касету іх „Жураўлінае пяро” і дала прагледзець. Каб затушаваць трэму, падсумавала яна. Ну, і вынік быў.

Лідка вельмі ўдзячна Дамініцы Вуйтовіч-Краузе, якая вучыла яе на курсах у беластоцкім ВААКу, а таксама акцёрам з тэатра лялек. Цяпер яна можа працаваць з дзецьмі.

Дзеці гэтай вясною рэпетыраваліся ў куртках, бо холадна, кажа Лідка, а апалу замнога спалілі. Трэба ў Доме культуры печы перарабляць, вокны дзіравыя. Рамонт патрэбны!

У тым жа халодным пакоі — майстэрні лялек, дзе мы гутарым з Лідкай, стаяць інструменты. Мы цяпер робім тут сваю капэлу людовую, заўважае Лідка, убачыўшы, што я разглядаюся па пакоі. Будзе перкусія (мой Пётр на ёй іграе), арганы, акардэон і „шэлестуны”. Крыху змяняем цяпер асабовы склад капэлы.

А во гэту газавую пліту калгас даў, цягне яна далей, а балон купіла гміна. Тут жа мы вядзем і кулінарныя курсы. З дзецьмі вяду заняткі я, а да дарослых прыязджае чалавек з Асяродка сельскагаспадарчых парад. Былі курсы пра агародчыкі, былі кравецкія.

РСП-Рыбалы нам дапамагае шмат. Спансаравалі, напрыклад, выданне касеты „Хлопцаў-рыбалоўцаў”. Даюць самаход, калі дзеці едуць кудысьці выступаць, кормяць гасцей, прымаюць іх у сябе.

Цесна супрацоўнічаем мы са школай. Школьнікі ў Доме культуры — як у сябе.

І яшчэ адно. Добра, што маем такога бацюшку (а. Рыгор Сасна — рэд.). Пашанцавала нам. Як трэба, то ён і грашыма дапаможа, вось хаця б, як тады, калі прыязджалі студэнты, што цікавіліся фальклорам. Ён і параіць, і паспагадае, і канкрэтна дапаможа.

Развітваюся з Лідкай і Рыбаламі, ад усяго сэрца зычачы ім новых здзяйсненняў.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# Здурэць ад шчасця

**— Вы чулі, што той дзядзька, што то выйграў дзесяць мільярдаў у „Мульцілётак”, то зусім здурэў?!**

**— А я і сам здурэў бы, калі б мне такое шчасце!**

Антоні Г. не захапляў азарт. Ён нават пра гэта і не думаў. Быўшы ў былым павятовым паморскім мястэчку па справах, купіў купон „Multilotek”. Нават не вельмі ведаў, як яго трэба выпаўняць — новы варыянт лато толькі ўваходзіў у жыццё. Засталося яму ад білета 10 злотаў з грашамі — нават на пляшку не хапіла б. Заглянуў у латарэйную будку ля аўтавакзала, высыпаў грошы перад працаўніцай: давайце на толькі, на колькі хопіць. Якраз хапіла грошай на дзесяцікратную стаўку. Варыянт, калі купон у ігры дзесяць раз падраз у лато, Антоні Г. не цікавіў — у яго тэлевізары не бачылася праграма „Польсат”. І вось у той вечар 10 лічбаў, выбраных Антоні Г., апынуліся сярод дваццаці, якія выйгралі. А пакольні ён заплаціў за дзесяць ставак, выйграў дзесяць мільярдаў на старыя грошы!

Антоні Г. спакойна вёў быў гаспадарку не на зусім найгоршым узроўні — хапала на падаткі, аплаты, і галодны не хадзіў. Жыў адзін — жонкі не ўдалося яму прыдбаць. Сітуацыя старога кавалера, які не шкодзіў нікому, не судзіўся ды не сварыўся за абы-што, не вельмі цікавіла суседзяў. От, звычайна, як у вёсцы. Тое, што якраз ён выйграў нейкія вялізныя грошы, было б ім невядомым — мала ж мясцовасцей пад В., і ў самім мястэчку трохі людзей ёсць, кожны ж мог трапіць той выйгрыш, пра які зашумела ва ўсёй Польшчы! Нічога навага Антоні Г. не прыдбаў — ні для гаспадаркі, ні сабе на спіну. Хадзіў далей у разбітых адыдасах і сінім летніку, у касцёл ды ў горад выбіраўся ў сціпленькім, хоць акуратным касцюме і добрых, моцных ботах.

Але Антоні Г. купіў сігналізацыю, якая ахоўвала б яго гаспадарку ад няпрошаных гасцей. Хоць кожны можа далей сюды зайсці, калі не цераз брамку, дык цераз шчарбаты плот. Штодзень ездзіць у камісарыят, піша лісты ў суды і міністэрствы, што наўкол яго адны злачынцы і разбойнікі, якія чакаюць толькі, каб адабраць у яго маёмасць, а яго самога забіць ды закапаць дзе ў лесе. Да кожнага, хто з цікавасці ці са справай загляне на ягоны падворак, выходзіць з нажом. Лістаношку так напалохаў, што месяц са свае хаты баялася выходзіць. Часам з суседніх мясцовасцей прыязджаюць людзі паглядзець, дзе жыве той „мільярдэр”, каб пасмяяцца, ды ўжо тое робіцца нецікавым. Верылі б людзі ў тыя мільярды Антоні Г., калі б ён не трапіў да псіхіятра. Сам паехаў да лекара — наракаў на кепскі сон, прывіды, галасы з патустаронняга свету, неўрозны кашаль, шум у вушах, млявасць у нагах. Сказаў доктару і пра тыя мільярды. Лекар, здаецца, паверыў, ведома ж, прыватны ён — узяў за дыягназ і лячэнне немалыя грошы. Накіраваў нават Антоні Г. на пабыўку ў клініцы неўроз. Калі б не тыя „ўчасы” Антоні Г. у псіхушцы, маглі б людзі паверыць у ягоны выйгрыш, але ж там, кажуць людзі, поўна такіх „мільярдэраў”, „капернікаў”, „напалеонаў”... Цяпер нават з цікавасці не хочацца людзям заглянуць, куды мог схаваць свае грашыскі шчаслівы „мульцілётчык”. Бо калі б меў іх, то ці захацеў бы аставацца ў іхняй вёсцы? У горадзе схаваешся ж хутчэй, ці са сваёю бядою, ці са шчасцем...

У Беластоку не схаваўся ад свайго багацця Мікіта Б. Памятаеце, як трапіў ён больш за восем мільярдаў у „Toto-Lotek”? І ніхто не даведаўся б, што гэта ён быў, калі б старэча не надумаў пахваліцца. Спачатку старэнькай сяброўцы... А ад каго, як ад каго, але ад сям'і не схаваешся. Пакінутым дзядулем раптам пацікавілася радня. Бо і праўда — нашто чалавеку над магілай патрэбны такія грошы? Каб апеку меці і памерці ў святле ласкі сямейнікаў, дзедка грошы пакрысе раздаў, а найбольш меў пакінуць унуку, які меў бы дагледзець дзядулю ў ягонай кватэры, у якой дзядуля і сам ён быў прапісаны. А тае ўвагі і дбайлівасці нашчадка было столькі, што беластоцкі багацей пацішу пакінуў наш свет, спачатку замуціўшы ў галовах сваёй радні. Бо жаруцца яны далей за кожны грошык.

— На халеру было Мікіту купляць той „лёс”! — кажа Вера Х. з вул. Вейскай. — Яшчэ пажыў бы крыху спакойна. А то сэрца яму раз'елі. Здароўе меў лепшае, чым я ў свае шэсцьдзесят. Ну, але каб мне трапіўся такі „лёс”, то я ведала б, што з ім зрабіць. Нарэшце — пажыла б!

**Міра Лукша**

# Гданьская прэзентацыя беларускіх гістарычных выданняў

21 мая г.г. у чытальнай зале Ваяводскай бібліятэкі ў Гданьску адбылася прэзентацыя выданняў Беларускага гістарычнага таварыства. Свае кніжкі прэзентавалі Алена Глагоўская („Беларусь 1914-1929. Культура пад прэсіяй палітыкі”), Славамір Іванюк („Беларусы і польска-беларуская дачыненні на Беласточчыне 1944-1956”, т. I, ч. 1) і Алег Латышонак („Беларускія вайсковыя фарміраванні 1917-1923”). Прэзентацыя суправаджалася выстаўкай усіх выданняў БГТ.

Мерапрыемства дасціпна павёў палітолаг праф. Анджэй Хадубскі, які сам прысвяціў колькі артыкулаў беларушчыне (ён друкаваўся і ў „Беларускім гістарычным зборніку”). Паўсотні публікі, заслухаўшы выступленні аўтараў, стала ўдзельнікамі і сведкамі жывой дыскусіі. Гданьшчане цікавіліся не толькі гісторыяй, але і думкамі беларускіх навукоўцаў пра ход падзеяў у сучаснай Беларусі. Тры гадзіны размовы прайшлі непрыкметна.

Скарыстала і каса БГТ, бо прысутныя набылі шмат кніжак, стаючы ў чарзе за аўтографамі.

**А. Л.**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Заслужаная для культуры

**Разам з адыходам Веры ВАЛКАВЫЦКАЙ на заслужаную пенсію і зясненнем ў 1986 годзе будынка старога Асяродка культуры ў Орлі адышоў таксама незабыўны клімат тамашняй рэгіянальнай культуры.**

Спадарыню Веру Валкавыцкую ведаю са школьных — 1960-х — гадоў і сам з'яўляюся адным з многіх выхаванцаў Гміннага асяродка культуры ў Орлі, у якім працавала яна з маладдзю на працягу дваццаці гадоў. Гэта дзякуючы ёй спазнаваў я каштоўнасці рэгіянальна-народнай культуры і набываў першыя музычныя ўмеласці. У 1976-1986 гадах разам з ёю выступаў я ў народным калектыве „Арляне".

Сёння 71-гадовая пенсіянерка так успамінае гісторыю сваёй сям'і і свой жыццёвы шлях:

„Пачну з карэнняў. Мой бацька, пакойны Панцеляймон Савіцкі, нарадзіўся ў Орлі ў 1887 годзе. У 16-гадовым узросце падаўся ў Маскву, дзе стаў працаваць на заводзе музычных інструментаў нямецкай фірмы Цымерман. Ажаніўся ў Маскве, а вянчаўся ў царкве Хрыста Збавіцеля. У 1922 годзе з мамай вярнуліся яны на радзіму. У Орлі ў вайну ўсё згарэла і прыйшлося ім пасяліцца ў Вульцы-Выганоўскай. Бацька працягваў займацца сваёй прафесіяй, вырабляў акардэоны, т.зв. „венскія", баяны, ладзіў саксафоны, гітары, мандаліны, рэстаўраваў і настройваў іншыя інструменты. Я нарадзілася ў 1925 годзе ў Вульцы. Потым жылі мы ў Кляшчэлях, скуль перасяліліся ў родную Орлю.

Пачалася II сусветная вайна. Мяне, 16-гадовую дзяўчыну, вывезлі на прымусовыя работы ва Усходнюю Прусію. У Кёнігсбергу працавала я ў рэстаране памочніцай на кухні. Калі нас вызвалілі, стала я тлумачам у савецкім ваенным штабе, паколькі добра валодала нямецкай, рускай і польскай мовамі.

Пасля вайны вярнулася я на радзіму і ўключылася ў рэчышча арганізацыйнай і прафесійнай працы. А час быў тады неспакойны. Беларускае насельніцтва Падляшша перажывала жах ад праследаванняў з боку ўзброенага акаўскага падполля. У пяцідзесятых гадах перавялі мяне на працу ў Мельнік над Бугам, а пасля ў Сямятычы. У Сямятыцкім павеце вялі мы культурна-асветную дзейнасць па вёсках. З Беластока давалі нам аўтамабіль з гукаўзмацняльнай апаратурай і мы ехалі ў глыбінку з музыкай і гутаркамі на розныя тэмы, у тым ліку і палітычныя. Арганізавалі мы народныя спартыўныя каманды і фальклорныя калектывы, якія фінансава падтрымоўваў Саюз сялянскай самадапамогі. У Орлі гэтую арганізацыю ўзначальваў тады Мяфодзій Бахенэк, жыхар вёскі Рудуты.



У Орлі пад канец саракавых гадоў пачаў дзейнічаць адзіны на Беласточчыне беларускі народны калектыў мандалiністаў і спевакоў. Музычныя інструменты (гітары, мандаліны, банджа, балалайкі) і народныя ўборы калектыў атрымаў з Беластока. Арлянскія самадзейнікі ўдзельнічалі ў I Цэнтральных дажынках у Любліне ў 1949 годзе, выступалі на Агульнапольскім злёце моладзі ў Варшаве ў 1952 годзе і на V Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў таксама ў Варшаве ў 1955 годзе. Было яшчэ шмат меншых мерапрыемстваў і безліч канцэртаў. Былі мы і далей бываем усюды, дзе нас толькі запрашаюць. Займаемся ў калектыве на грамадскіх пачатках, а асноўную яго частку складаюць пенсіянеры. За гэта належацца ім словы прызнання і шчырай падзякі за распаўсюджванне беларускай народнай культуры. **Орля грала і спявала, і надалей спявае!"**

Вера Валкавыцкая за заслугі ў распаўсюджванні культуры была ўзнагароджана шматлікімі ганаровымі граматамі, адзнакамі і медалямі, у тым ліку Сярэбраным Крыжам Заслугі. На заканчэнне нашай размовы спадарыня Вера праспявала прыгожую песню пра Орлю:

*Паміж вялікіх гарадоў і важных,*
*У той старонцы, дзе здаўна жывём,*
*Раскінулася вёска з дзіўнай назвай,*
*Якую мы радзімаю завём.*
*Прыпеў:*
*Орля, Орля, Орля, Орля,*
*Родны край, зямля мая.*
*Орля, Орля, Орля, Орля,*
*Незвычайная зямля.*

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Напад Нашасці на Вашмасць

Ой, людцы, дарагія! Пагледзіце самі, што ў гэтай краіне робіцца. Людзі пэўна страху не маюць і Бога не баяцца. Хто гэта бачыў, хто гэта чуў, каб харчовымі прадуктамі раскідацца. Пэўна, хутка канец будзе! Мала таго што дома робіш, што захочаш, дык яшчэ і за граніцай паказалі, што ўмеем. Выязджаць за граніцу і насмешкі рабіць? І то над кім? Над прэзідэнтам, галавою краіны! Ой, бяда, людцы, бяда. А можа не бяда, а распуста? Едуць за граніцу, няхай едуць, толькі не разумею навошта там насмешкі рабіць. Гэта ўжо зусім не па-чалавечы. У чым вінавата прэзідэнтава жонка? Што яна зрабіла, што яйкамі яе абкідваюць? Кажуць, прэзідэнцысе найбольш дасталося. Яна цяпер гатова на яйкі да смерці не глянуць. Цікава, якія гэта яйкі былі — нашы, ці заграничныя? Калі нашы, трэба каб мытнікі па яйках атрымалі за тое, што мужчын з яйкамі за граніцу прапускаюць. У нас мужыкі з яйкамі патрэбны, а тут, бачыце самі, што атрымоўваецца. Паедзе такі за граніцу і яйкамі раскідаецца, як бы сам іх знёс і не меў дзе іх падзець. Ганьба, паскудства, марнатраўства! Цікава, што на гэта сказаў бы мой сябра Петручук? Ён пры санацыйнай уладзе мусіў ашукваць сяброў, каб яечак паесці. Вядома, на Вялікдзень гэта было, бо ў нас толькі тады ў яйкі гуляюць. З яек, відаць, усё можна рабіць. Яйкі з маслам смакуюць, яйкі з салам, яйкі з каўбасою. А цяпер дайшлі яйкі з прэзідэнтам. Не адна цяпер жанчына інакш на прэзідэнта гляне і з-за яек прэзідэнт у жанчын прыхільнасць з'яднае. Яны да рэферэндуму пойдуць і ў выбарах яго падтрымаюць.

Некаторыя гавораць, што з яек жыццё паўстала. Не толькі іх ядуць, не толькі імі гуляюць ці з іх куранят выседжваюць, але яшчэ цяпер і палітыкаў абкідваюць. Вось да чаго распуста даводзіць. Каб бедныя былі, яек напэўна не марнавалі б. А то пааб'ядаліся, піўца напіліся і то заграничнага, і давай па Парыжы дабро раскідваць. А паехалі прадстаўнікі „Нашасці", якія ўрэзалі Вашмасці. А не маглі яны далажыць інШасці? Няхай другія паглядзелі б, з якою мы важнасцю сябе забеспячаем, не баімся нікога, ні ў сябе, ні за граніцай. Ой, культура, культура, як нам да цябе далёка. Хаця па свеце вандруем, другіх падглядаем, аднак свае падскокі надалей у крыві маем. Затое мы ваяўнічы народ і з яек у хуткім часе можам перайсці на тое, што робіць бум. Трэба, каб і тыя, што выязджаюць, пра сябе задбалі. Гэта вам не Варшава. За граніцай забяспечыцца трэба. Браць прыклад трэба са святога папы рымскага. Ён калі пачынаў свае пілігрымкі па свеце, таксама не асцерагаўся. І што выйшла? Амаль яго не забілі. Хаця ён і святы і Бог яго асцерагае, аднак, стралялі ў яго. Кулі гэта вам не яйкі! Маем шчасце, што святы папа астаўся ў жывых. Якая гэта была б страта! Хто цяпер асцерагаў бы людзей перад вайной, хто мір на свеце трымаў бы? Аж страшна падумаць. Гэта не тыя часы, калі наш Збавіцель Ісус Хрыстос хадзіў па зямлі пяшком, і ў пальмавую нядзелю ў Ерусалім на асляняці ўехаў. І людцы да пары да часу былі іншыя. Ён іх лячыў, аздараўляў, дабро рабіў. Любілі яго і паважалі, аднак сатана сваё рабіў і дайшло да найгоршага. Відаць, на гэта воля Божая была, так мусіла быць.

А цяпер тэхніка развілася, хадзіць пяшком не трэба, таму і святы папа задбаў пра сябе, загадаў збудаваць сабе аўтамабільчык, такі браневічок са шкла, які папамобіле завецца. І вось ужо цэлы свет праехаў і ніхто яго не пакрыўдзіў. І яшчэ неадною будзе ён лятаць, ездзіць, калі здароўе дазволіць. Такі лімузінчык нашаму прэзідэнту прыдаўся б. І не толькі прэзідэнту, а ўсім верхаводам, што за граніцу выязджаюць. Калі адны пачалі кідаць яйкамі, яшчэ і другія спрабуюць. І добра, калі яшчэ яйкамі. А як чым другім?!

Толькі адна бяда, што яйкі падаюць. Ну, можна не самі яйкі, а цана на іх. Аднак, што тут дзіўнага? Да гэтага, што цэны ў мужыка падаюць ён прывык і на ўсё цяпер глядзіць прыжмурыўшы вочы. Хто гарачэйшы, даўжэйшым матам загне, а хто яшчэ чагосьці ў свеце тым баіцца, паціху скажа: „Дапамажы нам, Божа, каб не глядзелі на нас воўчым вокам і ведалі, што мужыкі таксама хочуць лепш пажыць". Ну, за граніцу яны не паедуць, бо страшна там хадзіць.

**Грыша Мароз**

# Загудзела, як у пасецы

Калі, насуперак розным бюракратам і ігнарантам, убачыла свет мая бедная „Пожня", якую спярша выдаў на польскай мове выдавецкі кааператыў „Чытэльнік", я пачаў ездзіць на аўтарскія сустрэчы супольна з рознымі празаікамі і паэтамі беларускай літаратуры ў Польшчы. Але не толькі з імі, бо ездзіў таксама і з членамі ГП БГКТ, між іншым з Віталіем Лубам, які мне хіба спрыяў, бо не толькі прысутнічаў на сустрэчах, але і запрашаў у госці, калі нам давялося быць у ягоных баках Беласточчыны.

Мне вельмі было прыемна пазнаёміцца з начальнікам гміны ў Мілейчычах Мікалаем Бартнічуком, які сарганізаваў мне сустрэчу ў сваім бюро, а вечарам прадоўжыць дыскусію ў вельмі сімпатычнага сужонства Веры і Яўгена Герасімовічаў.

Аб такіх людзях варта памятаць з удзячнасцю, бо ані Мікалай Бартнічук, ані сям'я Герасімовічаў не выказалі найменшага раздражнення ў сувязі з гарачай дыскусіяй паміж сімпатычным, але і ўпартым чытачом Мікалаем Пуцам, а мной. Ён паставіў мне закід, што ў „Пожні" мо ўсяго толькі трыццаць працэнтаў праўды, а я хацеў даказаць, што там усё ёсць праўдай, акрамя таго, што я не бачыў, калі мая цётка з каханым кавалерам вырашыла паставіць бацьку перад здзейсненым фактам і ці гэта было ў клуні, ці не ў клуні. А Пуц не адступаў, бо яму так сказаў 30-гадовы начальнік з Чаромхі, які выводзіцца з Грабаўца. Калі б я падумаў, то сказаў бы згодна з праўдай, што „Пожня" змяшчае ў сабе не трыццаць, а дзесяць працэнтаў таго, што мне давялося перажыць пры бацьках. „Тое, што перажыў Петручук, Пуцу і многім з нас нават не снілася ў найкашмарнейшым сне", — падсумаваў дыскусію Мікалай Бартнічук і запрапанаваў перайсці на болей сімпатычную тэму.

У мінулым годзе Марыя Нічыпарук з Грабаўца сказала мне, што яе маці Анастасія называла мяне мучанікам, а сёлета стрый былога начальніка гміны ў Чаромсе, Іван Кулік, калі мы загаварылі пра „Пожню", прызнаўся: „Нас маці гадавала без бацькі і ніхто не скажа, што было ёй і нам, дзецям, лёгка. Але яна заўсёды падкрэслівала, што мы паўсіроты, а Васька Мазурыкаў — гэта горш чым круглы сірата, хаця мае бацьку". Але я пра заўвагу ягонага братанка — начальніка — нічога не згануў, бо хлапец ужо не жыве.

Загаварыўся я, а меў пісаць аб тым, як не хочучы сам сябе скампраметаваў. Менавіта, заехалі мы з Алесем Барскім у Сямятычы на сустрэчу са школьнікамі. Сённяшні прафесар пайшоў у адну школу, а мяне павялі ў другую да васьмікласнікаў. На маю бяду (добра мне так!) са мною пайшоў знаёмы, які хацеў паслухаць мову пісьменніка і пахваліцца перад вучнямі, якога ён мае сябру.

Пакуль там мяне прывіталі, пакуль прадставілі, прайшло крыху часу, а калі я разгаварыўся пра творчасць „белавежцаў" агульна і паасобна, то і мінуў ліміт прызначанага мне часу. Але я гэтага не адчуў і не спадзяваўся званка. Скончыўшы сваё выступленне, я звярнуўся да вучняў, каб задавалі пытанні. Паднесла руку бландзінка з першага рада і запытала: „Скажыце нам, якога паэта вы найбольш цэніце і чаму?"

Я падумаў, што трэба выклікаць шум, і правакацыйна водзячы вачыма па зале, адказаў: „З паэтаў я крышку ведаю ўсяго толькі Уладзіслава Бранеўскага..." І ў гэты момант раздаўся школьны званок. Моладзь загрукатала крэсламі, загаманіла, зашумела бы пчолы, ды пабегла на калідор. А я астаўся ў дурнях, а б чым і сёння ўспамінаю з горыччу. Сам я па-дурному ўкапаўся, бо паэтаў шмат не толькі ведаю, але памятаю іх вершы. Што ж, са мною і такое бывае.

**Васіль Петручук**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Позірк у мінулае

**15 чэрвеня**

451 г. — у бітве на Каталаунскіх палях бліз горада Труа ў Францыі рымскія войскі генерала Аэцыя сумесна з аланамі, франкамі, бургундамі і вестготамі пабілі войскі гунаў і іх саюзнікаў — остготаў, сарматаў і некаторых славянскіх плямёнаў — пад камандаваннем Атылы. Гуны, мангольскія плямёны, якія выйшлі з Сярэдняй Азіі, невядомымі былі ў Еўропе да 30-х гадоў V ст. Да таго часу сфарміраваліся яны ў вандроўныя орды, якія займаліся галоўным чынам выпасам жывёлы і жорсткім грабяжом аселых земляробаў. Хвалі ўцекачоў з прычарнаморскіх стэпаў навялі жах на ўсю Еўропу, які павялічыўся яшчэ, калі ў 434 г. узначаліў гунаў Атыла, названы пазней „божым бічом". Атыла і ягоны брат Бледа прымусілі візантыйскага цара Феадосія плаціць гадавую даніну ў памеры 300 кг золата. У 440 г. Атыла ўварваўся ў Візантыю, знішчыў шмат гарадоў і прымусіў цара да яшчэ большай даніны. У 445 г. забіў ён свайго брата, разбіў візантыйскія войскі, падпарадкаваў сабе землі на поўдзень ад Дуная і яшчэ павысіў даніну. У 450 г. Атыла зацікавіўся Захадам, не без дапамогі Ганорыі, сястры рымскага імператара Валенцініяна III, якая шукала падмогі для барацьбы са сваім братам. Атыла направіўся ў Галію, дзе і быў спынены. Ад Труа Атыла павярнуў свае войскі на поўдзень, у 452 г. падышоў пад Рым, аднак атрымаўшы багатыя падаркі адышоў ад горада. У 453 г. Атыла памёр, гуны змяшаліся з мясцовым насельніцтвам і з VII ст. спынілі сваё самастойнае існаванне. Пераможца гунаў Аэцый быў у 454 г. забіты па загаду імператара Валенцініяна III, неўзабаве тое ж спаткала і яго самога. У 455 г. у Рым уварваліся вандалы і на працягу 14 дзён разграбілі горад. Год пазней іх начальнік Адаакр зверг апошняга рымскага імператара Ромула Аўгуста, а ягоныя рэгаліі адаслаў у Канстанцінопаль.

1389 г. — у бітве каля Прышціны на Косавым полі былі забіты турэцкі султан Мурад I і сербскі князь Лазар. Туркі, якія ў 1352 г. пераправіліся ў Еўропу, паступова захоплівалі землі візантыйскія і паасобных славянскіх княстваў, на якія распаліся сербскае і балгарскае каралеўствы. Давалася гэта туркам даволі лёгка з прычыны ўзаемнай варожасці славянскіх князёў. Калі ўжо туркі занялі амаль усю Балгарыю, сербскаму князю Лазару ўдалося аб'яднаць славянскія сілы, якія дабіліся некалькіх перамог. Гэта насцярожыла туркаў, якія старанна прыгатовіўшыся да вырашаючай бітвы, рушылі ў паход у 1389 г. Войскі сербаў і туркаў сустрэліся непадалёк Прышціны. Ва ўпорным змаганні ніводзін з бакоў не мог дабіцца рашаючай перавагі. У ходзе бітвы быў забіты султан Мурад I, аднак яго сын Баезід, забіўшы свайго брата, узначаліў туркаў і яго войскі захапілі князя Лазара, які па прыказу Баезіда быў тут жа абезгалоўлены. Сама бітва на Косавым полі не дала рашаючай перамогі ні аднаму з бакоў, аднак смерць князя Лазара прычынілася да хуткага распаду завязанай ім кааліцыі, што і вырашыла пра лёс паўднёвых славян і ўсяе Паўднёва-Усходняе Еўропы на многія стагоддзі. **(Ш)**

# *Парнасік*

## На добрай дарозе

Меў і мае Янка гаспадарку
І ўсё нібы ў парадку.
Закончыў сельскую адукацыю
І ў галаве мае толк і рацыю.
Застаўся на гаспадарцы,
Як кажуць — *клопатарцы*.
Ды разам з бацькамі трудзіўся,
Машын і багацця дабіўся.
Адным словам — з пяці пальцаў
і ахвоты,
Бачучы перспектыву, не страшны
работы.
Ён можа ўсё зрабіць:
Нават нешта новае адкрыць.
Мае талент інжынера
І яго рашучая вера —
Не пахіснуцца і ісці далей
Штораз байчэй і смялей.
Людзі яго паважаюць,
Новыя дары ў ім адкрываюць:
Для іх ён чалавек заўсёды новы,
Які можа гнуць нават падковы.
Быў дабрадушны, нясмелы,
Але вельмі ўмелы.
Быў халасцяк —
І гэта мо адзін у ім брак.
Бацькі пастарэлі; прасілі — жаніся,
Недалёка ад нас ёсць Марыся,
Гаспадарлівая, добрая дзяўчына,
Як веснавая маліна.
Мо не пойдзе, ён гаворыць,
Ды ў сэрцы-душы Бога просіць
Каб пайшла за яго — шкадавацца
не будзе
І ў сям'і нешта жывое, дарагое
прыбудзе.
Надумаўся — са сваяком пайшлі
да яе ў сваты,
Былі там і Марысіны бацькі і браты.
І скора заселі за сталы
каб дагаварыцца
І каб Янку з Марысяй пажаніцца.
Яна на вяселле згадзілася ахвотна
Каб жыць з Янкам у міры і згодна.
Марыся і раней вокам за Янкам
страляла
І ў душы праслаўляла.
І вось лёс іх разам злучыў
Вясельным вянцом залатым.
Зрабілі вяселле, дзе і я быў,
Толькі гарэлкі не піў,
А залацістае віно, і то мала,
Што і ў рот не папала.
А маладыя жывуць вельмі згодна,
Што сёння не вельмі ўжо модна.

**Мікалай Панфілюк**

## Дзявочая мара

За гародам рэчка цячэ,
Там дзяўчына рыбу пячэ,
Старым салам памазвае
І да хлопца падміргвае.
— Мілы хлопча, трэ табе знаць,
Што хачу я цябе кахаць,
Болей з табой сустракацца,
Ды часценька цалавацца.
Я люблю тую натуру,
Каб пагладзіў хлопец скуру,
Каб пачухаў і за плечы,
Я не буду тады пярэчыць.
Знай жа, хлопча, што казаць,
Калі будзеш цалаваць.
А як мілаю назавеш,
Вось тады прыемна рэч.
Тады, мілы, добра знай,
Што спякуць нам каравай
І вяселле мы згуляем.
Будзем жыць як у тым раю.
Сям'ю нашу разбудуем
Ды дзіцятак пагадуем
І так будзем даглядаці,
Каб парадак быў у хаце.
І не будзе ў сям'і смутку,
Пашлем дзетак па навуку,
Каб родну мову вывучалі
І беларушчыну шанавалі.
І тады, мой мілы хлопча,
Будуць ўсе нас паважаць,
Будуць з намі сустракацца
І віном нас частаваць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Дарагі Астроне! Прысніліся мне два сны і я занепакоіўся, бо здаецца мне, што прадвяшчаюць яны нешта нядобрае.

Першы сон. Не ведаю, дзе я знаходжуся, але не ў сваёй хаце. Памяшканне мне незнаёмае. Уваходжу на кухню, а там... нейкія рэбры ляжаць: ката або кроліка. Ды яны варушацца! Уваходзіць у хату мая жонка, і я паказваю ёй гэта. Глядзім, а адно рабро цераз парог пералазіць. Яно тоненькае, не зусім абдзертае з мяса. Я кажу жонцы: „Ідзем адсюль!" І мы выйшлі.

Другі сон. Мы з жонкай у нейкім клубе. Танцуем. Падышлі два мужчыны... у кароткіх штоніках. Адзін з іх запрасіў маю жонку танцаваць. Я гляну ў на яе, а яна... без спадніцы! Здзіўлены, пытаю: „Дзе ж ты была, чаму без спадніцы?!" А яна, як бы гэтак і быць павінна, адказвае: „А што? То ж так танцуюць". Я адвярнуўся і выйшаў. На панадворку раслі высокія таполі.

**Сцяпан**

Ой-ой, даражэнькі Сцяпанка! Што з таго, што на двары раслі таполі, калі ў першым сне рэбры з мясам праз парог пералазілі! Бяда, брат, клопат нейкі страшны, а мо нават і небяспека. Можа прычапіцца нейкая хвароба, або падсцерагае цябе нейкая іншая сумная падзея.

Твой другі сон быццам бы паясняе першы. Танец, ён заўсёды прадвяшчае дармовыя захады. Нешта не будзе ладзіцца ў тваіх справах. Скажу шчыра: нехта можа абдзерці цябе, як ліпку, у выніку тых захадаў. За гэта гаворыць тое, што твая жонка была без спадніцы, паўапранутая.

Вазьмі сябе ў рукі!

**Астрон**



Фота Міхала Мінцэвіча

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. план, чарцёж, 4. іграе на карнеце, 6. палац, 7. заснавальнікі першай венгерскай дынастыі, 9. трэцяя ад канца літара лацінскага алфавіта, 11. гара ў Юлійскіх Альпах (2 863 м), 12. вышэйшая ступень задавальнення, 13. жаласны стогн, 15. яго помнікаў многа ў Беларусі, 17. узгорак, 18. раздзел медыцыны, які вывучае пухліны, 19. драўляны цэбрык.

**Вертыкальна:** 1. эфіопскі імператар (1889-1913), 2. пачуццё моцнай збянтэжанасці, 3. горад на поўначы Чылі, 4. горад у Казахстане, 5. раздзел геаметрыі, 6. орган вярхоўнай улады ў Манголіі, 8. іграе на дудзе, 9. горад на Гродзеншчыне, 10. рыбалоўная сетка, нацягнутая на абруч, 14. лёгкае хатняе адзенне, 16. балота, з якога выплывае Нарва, 17. нізкае, топкае месца. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 17 н-ра:**

**Гарызантальна:** франт, веласіпед, подых, румба, эрг, атавізм, Арагуая, сак, парус, багна, тапалогія, тэрор.

**Вертыкальна:** майстар, фелах, тапор, вадаварот, дэмагогія, патоп, Адана, Эмс, гак, акуляры, Сопат, бугор.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.


# *Ніва*

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак. Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.
**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Ніўка

## Пародыі

### Падлетак?

*Калі я быў яшчэ падлеткам,*
*Дык жыў у вёсцы пад страхой...*

***Віктар Швед***

Мне ў хаце не хапала месца,
Я жыў, як птушкі, пад страхой.
Там і каса вісела ўлетку,
Было натхненне і спакой.
А быў я юнаком, „атрокам”.
Касіў і сенца я сушыў
На лузе, як акінуць вокам,
На пальцах мазалі насіў.
Я барану цягаў цяжкую,
І плугам рэзаў я раллю...
Суседак-ластавак не чую,
Як смачна пад страхою сплю.
А потым справу гэту кінуў,
У свет шырокі я пайшоў.
Знайшоў у горадзе жанчыну,
Штовечар сцелем мы пярыну.
А рукі, што ж... без мазалёў.

**Сяргей Чыгрын**

## Скажам праўду

— Добры дзень, пан чыгуначнік. Ці гэты цягнік едзе ў Чаромху?!

— У Чаромху, у Чаромху! Хутчэй заходзьце, бо ўжо едзем!

— Але ж я не еду ў Чаромху.

***

— Анёлы, яны розныя. Як на малюнках. Анёлкі-дзеткі, пуцатыя, з крыльцамі. І вялікія анёлы-ахоўнікі ў белым адзенні... Праўда?..

— Калі ў мяне ёсць анёл-ахоўнік, то добра было б, каб быў высокім, статным брунетам.

***

— Я вельмі пераймаюся, пані кахана. Мая Сонька ўсё кашляе, носік — усё мокры ды гарачы. На вуліцу трэба ж выходзіць, а балонневы плашчык Сонечка насіць не хоча.

— Вядома, малыя любяць свабоднае адзенне.

— Буду везці яе да доктара. Кажуць, ёсць і палiклінікі, што па тэлефону доктара дахаты прысылаюць.

— З насмаркам?.. То ж наша паліклініка сто метраў ад хаты будзе.

— Але ў нас сабак не прымаюць.

**Пачуў (лук)**




*Мал. Я. БУСЛА*

## Ганна Карэніна

Вакзал бурліў, як усходні базар.

— Грамадзяне пасажыры! — праступджана прабіваўся з рэпрадуктара голас дыспетчара. — Скоры поезд Адэса — Санкт-Пецярбург адпраўляецца з другога пуці...

Уважліва даслухаўшы аб’яву, Ганна, кволая брунетка гадоў дваццаці пяці, безнадзейна аглянулася, потым кінулася на рэйкі і ўлеглася ля саменькіх колаў цеплавоза.

Натоўп на пероне ахнуў ад жаху.

— Ну, нібыта Ганна Карэніна! — з захапленнем заўважыў тлусты мужчына, які штомінутна выціраў лысіну насоўкай.

— Карэніна, нябось, сiганула пад цягнік, які імчаў на ўсіх парах! — гучна запярэчыла бадзёрая бабулька з падзёртым саквояжам пад пахай. — А гэтая бессаромніца разлеглася без усялякай рызыкі.

— Няшчасная любоў, — загадкава ўсміхнуўся імпазантны мужчына з яўнай артыстычнай знешнасцю.

— Падумаеш! — чмыхнула дзяўчына ў джынсавых шортах, пашарпаных знізу. — Я б у такім сарафане не тое, што пад поезд, але пад „Запарожац” не кінулася б.

— Даэмансіпаваліся! — панура прагучаў з натоўпу нечы сакаўны барытон.

— Міліцыя! — нарэшце закрычала бадзёрая бабулька з саквояжам.

Немаведама адкуль з’явіўся вартавы парадку, казырнуў Ганне і сказаў:

— Грамадзяначка! Парушаеце!..

— Дайце жанчыне адпачыць ад хатніх клопатаў, — паблажліва пажартаваў імпазантны.

— Артыстка! — з лёгкай зайздрасцю сказаў яшчэ нехта. — О-о-т! Сыграла!

— Ганна! Уставай! — Перакрыў шум перона гучны крык. — Выкленчыў. Вагон адзінаццаты!

Да поезда стрымгалоў бег малады чалавек, шчасліва размахваючы двума білетамі.

**Леанід Кацкевіч**

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Дарагая суседка! Бачыла я ўчора нарачонага вашай дачкі ў суправаджэнні высокай прыгожай бландзінкі; ці вам вядома пра яе?

— З вашага апісання вынікае, што гэта яго жонка.

* * *

— Бачу, што ты налажыла кольца не на той палец...

— Ды яшчэ ж і выйшла не за таго мужчыну!

* * *

Сварацца дзве суседкі:

— Я не бегаю ад дома да дома, як ты, і не разбрэхваю хлусняў!

— Выбачай, я не ведала, што ў цябе тэлефон.

* * *

Гутараць дзве суседкі:

— Да таго давёў грып, што мой Коля курыць толькі пасля добрага абеду.

— Гэта цудоўна! Адзін папярос у год яшчэ нікому не пашкодзіў.

* * *

— Мой сусед знізу, гэта вельмі добры чалавек; ён усё што меў перадаў дому для сіротаў.

— А многа гэтага было?

— Дзесяцёра дзяцей.

* * *

— Чула?! Варка кінула свайго мужа...

— Што ты скажаш! Яна ж была такая закаханая ў ім, называла яго святлом свайго жыцця...

— Гэта праўда, толькі тое святло вечарамі шторaз часцей гасла.

* * *

— Як шкада, што твой першы муж так рана памёр.

— Цікава! Мой другі муж гаворыць тое самае.

* * *

— Ведаеш, учора я так доўга стаяла ў чарзе, што аж гемарою дастала.

— А дзе ж ты яго дастала?

— У ср..., каханюткая!

— Во, бачыш ты, якая эгаістка!

* * *

— Уяўляю сабе, мой дарагі, як ты мучыўся і якія страшэнныя падазрэнні ўзнікалі ў тваёй галаве, калі я прапала на тры дні...

— Так! Адразу падумаў, што тут жа вернешся.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Я закончыла сёлета сярэднюю школу. Мне да гэтага года здавалася, што людзі ў матуральным узросце — гэта ўжо дарослыя людзі. Аднак тое, што здарылася зімою, перавярнула ў маёй галаве ўсе паняцці дагары нагамі.

У нашай школе, як і ўсюды, рыхтавалася стаднёўка. Што рабіць? Я якраз адправіла з квітком свайго хлопца, які дзейнічаў адразу на двух франтах. Не буду хадзіць з сабакам! На душы скраблі кошкі, было маркотна і нiякавата.

А найгоршае было тое, што не магла ж я адна ісці на стаднёўку, калі кожны ішоў з парай. Я ведаю, што вельмі часта гэтыя пары бываюць усяго на адзін вечар, абы было з кім бавіцца, але мне нават у галаву не прыходзіла, каго б гэта я магла запрасіць.

А пасля я падумала, што можна было б запрасіць хлопца з нашага блёка, які часта зыркаў на мяне, калі бываў паблізу. Мы былі знаёмыя ад малых гадоў, разам яшчэ былі ў прадшколлі, гулялі на панадворку, хадзілі ў адну падставоўку. Пасля, аднак, нашыя дарогі разышліся. Я пайшла ў ліцэй, а ён — у тэхнікум.

Божа, колькі мне гэта каштавала: падняць тэлефонную трубку і запрапанаваць яму супольную забаву! Гэта ж так, быццам бы чалавек ужо быў найгоршы, бо запрашае хлопца, з якім у даны момант не мае нічога супольнага.

Сяброўкі (некаторыя, вядома) хваліліся, што ўжо маюць па некалькі кандыдатаў, якіх падрыхтавалі загадзя. Не захоча адзін — дык пойдзе другі. А я ў апошні момант мушу шукаць кавалера... Ну, але хто ж мог бы прадбачыць, што мы пасваримся, што мой хлопец акажацца цягачом... Калі я даведалася, што ён сустракаецца яшчэ з іншай дзяўчынай, нешта ў маім сэрцы лопнула. І, сказаць па шчырасці, мне наогул ніякія стаднёўкі не былі ў галаве.

Ну, але запрасіла суседа. Уявi сабе, што хлопец вельмі ўцешыўся. Сустрэліся на вуліцы — дык аж яму дух ад радасці запірала. Я падумала нават, што вельмі добра я зрабіла, што яго запрасіла. Што, мела я гуляць з тым рэнегатам, адшчапенцам, калі столькі хлопцаў ёсць навокал? Вось жа, відаць, ёсць крыху ахвотных пагуляць са мною, ну, хоць адзін вечар. Думкі клубіліся ў маёй галаве, а я не магла ад іх пазбавіцца.

Надышоў той вечар, тая стаднёўка. Хлопцаў — такіх, што прыйшлі сюды на адзін вечар, было шмат. Яны ахвотна гулялі з усімі. А мой партнёр, як высветлілася, зусім не ўмеў танцаваць. Дык што, мо я мела стаяць у кутку, або ўвесь час есці, як ён?

Я пайшла танцаваць. Запрашалі мяне розныя хлопцы. Увесь час каля мяне круцілася іх трое. Калі я прысела ля адчыненага акна — былі яны са мною. Калі я ўстала, каб перакусіць — пайшлі туды і яны.

Я хацела прысесці на свайм крэсле ля стала, як мой „партнёр”, з якім я прыйшла афіцыйна (невядома, адкуль узяўся), забраў з-пад мяне крэсла, і я паляцела на падлогу, а калі ўстала, то ўбачыла, што мая міні-спаднічка раздзерлася аж да пояса. Дзяўчаты дружна загаталі. Божа, што было рабіць? Ты, свіння, кажу „сваму” хлопцу, дзеля гэтага ты прыйшоў на маю стаднёўку?

Адным словам, трэба было ісці дахаты. Я была злосная, як воўк. Узяла таксі і паехала дахаты. Ці ж можна гэтага чалавека назваць дарослым?

**Крыся**

Крыся! Так бывае, калі чалавек запросіць кагосьці, як кажуць, з мусу. Ты гэтага хлопца фактычна ўжо не ведала. У маленстве людзі часамі бываюць зусім іншыя.

А ён узяў ды ўзлаваўся не на жарты. Што гэта такое? Запрасіла яго, а гуляе з іншымі. Што ён, уваходны білет, ці што! Не ўмее танцаваць, кажаш, а пыталася ты ў яго?! А што ж гэта такое: ці на танцах усё жыццё канчаецца?!

І таму, даражэнькая, часам варта крыху патрымаць больш-менш свайго хлопца, хаця і злавіла ты яго з іншай. Патрымаць прынамсі да першага важнага балю.

**Сэрцайка**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014